


“Каб усе былі адно”
(Ян 17, 21)

# Царква

№ 2 (65), 2010 БЕЛАРУСКАЯ ГРЭКА-КАТАЛІЦКАЯ ГАЗЕТА




*ХРЫСЬЦІЯНСКІ ФЭСТ у Пінску, 22.05.2010. Сьпявае манах-кармяліт брат Павел ад Добрага Пастыра (Павел Рудзьман, ад 19.06.2010 – сьвятар) з гурта семінарыстаў “Подых Духа”. Фота Міхаіла Волкава. (Пра падзею гл. таксама с. 17, 20).*

*“Маладыя людзі маюць патрэбу ў прасторах, дзе жывуць верай, у якіх бачная прыгажосьць веры, у якіх бачаць, што менавіта гэта – мадэль жыцьця, не адна з мадэляў, а канкрэтная мадэль, і, такім чынам, дапамагчы ім знайсьці рухі ці парафіі (супольнасьць у парафіі), ці іншыя кантэксты, дзе яны рэальна былі б акружаны верай, любоўю Бога, і маглі б адкрыцца, каб пакліканьне Бога дасягнула іх і дапамагло ім.”*

*Сьвяты Айцец Бенядыкт XVI. Малітоўнае чуваньне з нагоды Міжнароднай сустрэчы сьвятароў напрыканцы Году сьвятарства, 10.06.2010.*

## У нумары:





# БЕНЯДЫКТ XVI ПРА ТАЙНУ ПЯЦІДЗЯСЯТНІЦЫ:

## Сьвяты Дух – крыніца надпрыроднай еднасьці і полымя, якое перамяняе сэрцы

***Ва ўрачыстасьць Зыходу Сьвятога Духа Папа Бенядыкт XVI узначаліў імшу ў базыліцы сьв. Пятра. Тэмай яго казані сталі разважаньні пра прыроду Царквы, якую немагчыма зьвесьці да якога-небудзь палітычнага праекту і якая ўяўляе сабою звышнатуральную рэальнасьць еднасьці чалавечага роду.***



Рымскі Архірэй адзначыў, што Пяцідзясятніца дапаўняе сабой усю зямную місію Сына Божага, Які памёр на крыжы, уваскрос і ўзьнёсься да Айца і Які ўдыхнуў у чалавечыя сэрцы новую сілу Духа, і гэта ёсьць чарговае адкрыцьцё Бога, Які зьмяняе сьвет.

“Там, дзе маюць месца расколы і адчужэньне, – працягваў ён, – гэтая сіла творыць еднасьць і паразуменьне. Так пачынаецца працэс аднаўленьня еднасьці паміж рознымі часткамі агульначалавечай сям’і, унутрана падзеленай і расьцярушанай. Людзі, якія часта ператварыліся ў канкуруючыя і канфліктуючыя паміж сабой індывіды, будучы закранутыя дзеяньнем Духа Хрыстова, адкрываюцца досьведу сулучнасьці, які паглынае іх настолькі, што яны з гэтага часу складаюць новы арганізм, новы суб’ект – Царкву. Вось вынік дзеяньня Божага – еднасьць. Таму еднасьць робіцца таксама апазнавальным знакам, “візітнай карткай” Царквы на працягу ўсёй яе гісторыі. Ад самага пачатку свайго існаваньня, з дня Пяцідзясятніцы, прамаўляе яна на ўсіх мовах. Паўсюдная Царква мае прыярытэт перад пасмеснымі Цэрквамі, якія пакліканы знаходзіцца ў згодзе з ёй у адпаведнасьці з крытэрамі еднасьці і паўсюднасьці. Царква ніколі ня можа быць нявольніцай палітычных, расавых ці культурных абмежаваньняў; яе нельга параўноўваць з дзяржавай ці нават з федэрацыяй дзяржаў, паколькі яе еднасьць мае зусім адметны характар і імкнецца пераадолець любыя людзкія межы. Калі ж асобны чалавек ці нейкая чалавечая супольнасьць імкнуцца абмежаваць сябе выключна ўласным мысленьнем і спосабам дзеяньняў, гэта знак таго, што яны аддаліліся ад Сьвятога Духа”.

Далей Бенядыкт XVI адзначыў, што аб'ядноўчае дзеяньне Сьвятога Духа ня мае нічога агульнага з эгалітарызмам (усеагульнай ураўняльнасьцю). Яно – поўная супрацьлегласьць Бабілонскай вежы, своеасабліваму “тэхнічнаму” праекту, які навязваў усім адзіную мову. У дзень Сёмухі ўсё адбываецца зусім інакш: кожны чуе сваю ўласную мову.

“Еднасьць Духа выяўляецца ў разнастайнасьці разуменьня, – сказаў далей Папа. – Царква па сваёй прыродзе і адзіная, і разнастайная. Яна паклікана да існаваньня сярод усіх народаў і людзей, у самым розным сацыяльным асяроддзі. Царква толькі тады адпавядае свайму пакліканьню быць знакам і прыладай еднасьці ўсяго роду чалавечага, калі не ідэнтыфікуе сябе з нейкай пэўнай дзяржавай ці культурай. Заўжды і ўсюды Царква мае быць па-сапраўднаму каталіцкай і паўсюднай. Яна мусіць быць домам для ўсіх людзей, у якім кожны чалавек адчуваў бы, што ён – “у сябе”.

Сьвяты Айцец таксама зьвярнуў увагу на сымболіку агню, характэрную для зыходу Сьвятога Духа. “Як жа адрознае гэтае полымя ад полымя войн і бомбаў! – адзначыў ён. – Як жа адрозны пажар, запалены Хрыстом, і які распаўсюджвае Царква, ад пажараў, учыненых дыктатарамі розных эпох, у тым ліку і мінулага стагоддзя, пасьля якіх заставалася толькі выпаленая зямля. Агонь Божы, полымя Духа Сьвятога мае тую ж прыроду, што і агонь незгаральнага куста. Гэты агонь гарыць, але не зьнішчае. Больш таго, разгараючыся, ён выяўляе лепшую, сапраўдную сутнасьць чалавека, нібы выплаўляючы яго ўнутраныя контуры – пакліканьне да праўды і любові”.

Аднак, як заўважыў Папа, той самы агонь уяўляе пагрозу для ўсяго, што ў чалавеку будуецца на логіцы валоданьня, а не дзяленьня, для ўсяго, што абцяжарвае зносіны з Богам і блізкімі. Мы ж нярэдка баімся “згарэць”, аддаючы перавагу таму, што нам здаецца важным і дарагім, каб застацца такімі, якімі ёсьць. З гэтай прычыны шмат хто верыць у Бога і захапляецца Ісусам Хрыстом, але, тым ня менш, адмаўляецца ад учынкаў, цаной якіх было б адрачэньне ад чагосьці, што ім вельмі дорага. Людзі баяцца патрабаваньняў веры. Людзі баяцца, што калі сьледаваць за Хрыстом, гэта пазбавіць іх волі ці вымусіць адмовіцца ад нейкіх учынкаў, якія сталіся для іх звыклымі. Такім чынам, з аднаго боку, мы жадаем быць з Ісусам, наблізіцца да Яго, а з іншага – баімся таго, што за гэтым можа здарыцца.

“Дарагія браты і сёстры! – зьвярнуўся Папа. – Нам трэба ўвесь час чуць словы Ісуса, якія Ён гэтак часта паўтараў Сваім вучням: “Ня бойцеся!” Падобна Пятру і іншым апосталам, мы павінны дазволіць, каб Яго прысутнасьць і ласка маглі перамяніць нашыя сэрцы, заўсёды падатныя на чалавечыя слабасьці. Мы павінны зразумець, што зрачыся ад чагосьці, ды нават і ад сябе саміх, дзеля Бога праўдзівага, Бога любові і жыцьця, гэта на самай справе значыць знайсьці, па-сапраўднаму адшукаць самога сябе. Той, хто даверыцца Хрысту, ужо ў гэтым жыцьці зьведае супакой і радасьць сардэчную, якіх сьвет ані даць, ані адняць ня можа. Таму як жа важна дазволіць, каб полымя Духа Сьвятога магло дакрануцца нас! Той боль, які мы пры гэтым адчуваем, неабходны для нашага перамяненьня. У ім – рэальнасьць крыжа”.

Пасьля імшы, на паўдзённай сустрэчы з вернікамі падчас малітвы “Regina Caeli”, Сьвяты Айцец працягнуў свае разважаньні пра дзень Пяцідзясятніцы.

“Тайна Пяцідзясятніцы, якую мы слушна атаясамліваем з падзеяй у Ерусалімскай сьвятліцы, ёсьць сапраўдны хрост Царквы, – сказаў ён. – Гэтым, аднак, тайна не вычэрпваецца. Бо Царква ўвесь час перажывае выліваньне Сьвятога Духа, без якога яна б даўно пазбавілася моцы, падобна ветразю ў зацішнае надвор’е. Між тым, Царква ведае незьлічоныя “пяцідзясятніцы”, якімі ажыўляюцца мясцовыя супольнасьці. Прыгадаем набажэнствы, якія асаблівым чынам перажываюцца ў значныя для жыцьця пэўнай супольнасьці моманты. У гэтых выпадках сіла Божая дзейнічае абсалютна відавочна, абуджаючы ў душах радасьць і запал. Прыгадаем шматлікія малітоўныя групы, у якіх маладыя людзі ясна ўсьведамляюць сваё пакліканьне будаваць сваё жыцьцё ў Боскай любові і цалкам прысьвяціць сябе Богу”. Сьвяты Айцец узгадаў пры гэтым пра важныя сустрэчы царкоўных рухаў са Слугой Божым Янам Паўлам II на плошчы Сьвятога Пятра ва ўрачыстасьць Зыходу Сьвятога Духа ў 1998 годзе.

У гэтым кантэксьце няспыннага дзеяньня Духа Сьвятога Бенядыкт XVI узгадаў таксама і пра сваё нядаўняе наведваньне партугальскай Фацімы. Там, у прысутнасьці сотняў тысячаў паломнікаў, ізноў быў перажыты досьвед вучняў Хрыстовых, якія сабраліся ў Ерусалімскай сьвятліцы. У безупынным працэсе выліваньня Духа, падкрэсьліў Папа, сваё месца мае Марыя.

# “20 гадоў Ты, Госпадзе корміш мяне Еўхарыстыяй”



• Айцец Ян Матусевіч з маладымі ўніятамі (пач. 1990-ых гг.)

***11 сакавіка 1990 году Апостальскі Візітатар для беларусаў замежжа а. Аляксандар Надсан адслужыў ў Менску Боскую Літургію ў візантыйскім абрадзе на беларускай мове. Гэта была першая адкрытая грэка-каталіцкая Літургія ў паваеннай Беларусі.***

20 гадоў таму, у 1990 годзе мы жылі яшчэ ў Савецкім Саюзе і “афіцыйна” Грэка-Каталіцкай Царквы ў БССР не было, але гэта не азначае, што не было грэка-каталікоў ці ніхто ня думаў пра адраджэньне нашай Царквы. Наадварот, праз усе часы забароны, ад гвалтоўнага зьнішчэньня і праз гады фальшаваньня гісторыі, былі людзі, якія ведалі Праўду і рабілі тое, што маглі, кожны на сваім месцы.

Прыйшоў час, і гэтая самаахвярная праца, вернасьць Праўдзе і нязломнасьць прынесьлі свой плод. З “перабудовай” і “галоснасьцю” маладыя людзі, якія шукалі праўду пра сябе, якія шукалі сваю тоеснасьць, маглі адкрыта гаварыць пра нашую гісторыю і Грэка-Каталіцкую Царкву. У гэтыя гады шмат моладзі і старэйшай інтэлігенцыі прынялі ідэю Уніі, як асаблівы шлях разьвіцьця Беларускага народу.

12 лістапада 1989 году у м. Баруны, старажытным грэка-каталіцкім цэнтры, айцец Ян Матусевіч арганізаваў сьвята Сьвятамучаніка Язафата Полацкага; ад гэтага часу, думкі пра адраджэньне Царквы ўжо перасталі быць такімі нерэальнымі. Пачалі ажыцьцяўляцца канкрэтныя справы: арганізавалася моладзевая суполка “Унія”, пачалася праца па падрыхтоўцы грэка-каталіцкай газеты ці нават часопіса – усё для папулярызацыі справы аднаўленьня душпастырскай дзейнасьці Царквы.



• Айцец Аляксандар Надсан служыць у грэка-каталіцкай капліцы ў Менску (1990-ыя гг.)
Фота Дзяніса Раманюка.

І сталася… 10-16 сакавіка 1990 году ў Беларусь прыехаў айцец Аляксандар Надсан, Рэктар Беларускай каталіцкай місіі ў Лондане і Апостальскі Візітатар для беларусаў грэка-каталікоў замежжа. Айцец прыехаў з дабрачынным грузам для дзетак з Гомельшчыны. Ён сустрэўся з групай моладзі, якая называла сябе суполка “Унія”. Гэтая сустрэча, якая адбывалася на кватэры Сяржука Абламейкі ў Менску, была вызначнай. Маладыя людзі зразумелі – яны не адны, у асобе айца Аляксандра яны маюць пераемнасьць ад нашых вялікіх айцоў: Біскупа Чэслава Сіповіча, Біскупа Ўладзіміра Тарасевіча, архімандрыта Льва Гарошкі, айца Язэпа Германовіча, айца Тамаша Падзявы і іншых, іншых…

Больш таго, у нядзелю, 11 сакавіка 1990 году, айцец Аляксандар адслужыў у касьцёле Ўзвышэньня Крыжа на Кальварыі Боскую Літургію Яна Залатавуснага, якая сталася першай непадпольнай грэка-каталіцкай сьв. Літургіяй у паваеннай Беларусі. На літургію прыйшлі сотні людзей, адчуваўся сьвяточны настрой.

Увогуле тыя дні прыезду айца Аляксандра былі адметныя. Але падчас Еўхарыстыі наступілі сутнасныя зьмены на шляху адраджэньня, бо мы перасталі быць групамі моладзі і інтэлігенцыі – мы сталіся Царквою. У гэтай Боскай Літургіі мы паяднаціся з усёй Сусьветнай Царквою, сталі выразам адзінства Народу Божага *(пар. LG 11)*.

Аднаўленьне літургічнага жыцьця Царквы стала крыніцай і падмуркам адраджэньня структураў Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы. А тое, што гэтая Літургія сталася крыніцай новых пакліканьняў да сьвятарства, я магу засьведчыць на сваім прыкладзе…

**а. Андрэй АБЛАМЕЙКА,**
*Гамінг (Аўстрыя)*

***“Дзе няма любові – няма і Царквы, ёсьць толькі бачнасьць, падман, які адштурхоўвае людзей. Дапамажы нам, Госпадзе, стаць Царквою, а ня толькі бачнасьцю яе”***

***Мітрапаліт Антон Суражскі.***

⇨ У прысьвечаных Багародзіцы санктуарыюмах вернікі адчуваюць на сабе Яе матчыну апеку.

“Няма Царквы без Зыходу Духа, – сказаў Сьвяты Айцец. – І яшчэ дадам, што няма Пяцідзясятніцы без Найсьвяцейшай Дзевы Марыі. Так было напачатку, у Ерусалімскай сьвятліцы. Так бывае ўвесь час, у любым месцы, у любы час. Нядаўна я сам стаў сьведкам гэтага ў Фаціме. Хіба тое, што перажыў незьлічоны натоўп людзей, што сабраліся на пляцы перад санктуарыюмам, калі ва ўсіх было адно сэрца і адна душа, не было новым Зыходам Духа? З намі была Марыя, Маці Ісуса. Там, дзе хрысьціяне зьбіраюцца на малітву разам з Марыяй, Госпад удзяляе Свайго Духа”.

*Паводле Radio Watykańskie i Catholic.by*

# Бенядыкт XVI да сьвятароў: Бог хоча, каб мы разьдзялялі Яго клопат аб людзях

***11 чэрвеня 2010 г. на заканчэньне Году сьвятарства ў Апостальскай Сталіцы на плошчы Сьвятога Пятра Бенядыкт XVI узначаліў сьвятую Імшу, якую разам з ім канцэлебравалі 15 тысячаў сьвятароў з усяго сьвету. У гаміліі Пантыфік зьвярнуў увагу на найбольш важныя пытаньні і праблемы, перад якімі стаіць Царква і яе духавенства.***

“Бог хоча, каб мы як сьвятары (...) разьдзялялі Яго клопат аб людзях, – адзначыў Сьвяты Айцец. – Як сьвятары мы жадаем быць тымі, хто разам з Яго клопатам аб людзях агорне іх апекай, дапаможа ім зьведаць гэты Божы клопат“.

Пантыфік таксама падкрэсьліў, што сьвятар павінен умець сказаць, як Госпад: “Я ведаю авечак Маіх, а яны ведаюць Мяне”. “Ведаць” на біблейскай мове азначае ня толькі ведаць штосьці вонкавае, але ведаць пра тое, што ўнутры іншага. Заданьне сьвятара – быць побач з асобамі, якія былі яму даручаны, быць з імі нават – і перш за ўсё – тады, калі ён сам перажывае “цёмныя ночы спакусаў, у час цемры, калі здаецца, што няма ўжо ніводнага прасьвету”. Такія думкі выказаў Сьвяты Айцец і нагадаў, што Царква павінна выкарыстоўваць пастырскую ласку, дзякуючы якой яна аберагае веру ад хлусьні, ад плыняў, якія зьяўляюцца дэзарыентацыяй у нашай сучаснасьці.

*Паводле Catholic.by*

# Бенядыкт XVI: сьвецкія вернікі павінны зьдзейсьніць “рэвалюцыю любові” ў сёньняшнім сьвеце

***У жыцьці сучаснага сьвету неабходна сапраўдная “рэвалюцыя любові”, а зьдзейсьніць яе павінны сьвецкія вернікі, якія ўдзельнічаюць у грамадзкім жыцьці, – падкрэсьліў Сьвяты Айцец Бенядыкт XVI у звароце да ўдзельнікаў пленарнага пасяджэньня Папскай Рады па справах сьвецкіх на чале са старшынём ведамства кардыналам Станіславам Рылкам, якім удзяліў аўдыенцыю 21 траўня 2010 году.***



Зьвяртаючыся да тэмы пасяджэньня Рады – “Сьведкі Хрыста ў палітычнай супольнасьці”,– Папа адзначыў, што “місіяй Царквы не зьяўляецца тэхнічная падрыхтоўка палітыкаў”. Адначасова, спасылаючыся на Другі Ватыканскі Сабор, Пантыфік падкрэсьліў, што часткай гэтай місіі зьяўляецца, тым ня менш, “выказваньне маральнага меркаваньня, у тым ліку пра справы, якія датычацца палітычнай сферы, асабліва там, дзе таго патрабуюць фундаментальныя правы чалавека або збаўленьне душаў, пры ўдзеле ўсіх тых дапаможных сродкаў, якія згодныя з Евангельлем і з агульным дабром”.

Задачай вернікаў, паводле словаў Сьвятога Айца, зьяўляецца “сьведчаньне ў асабістым і сямейным, грамадзкім, культурным і палітычным жыцьці, што вера дазваляе пановаму і глыбей зразумець рэчаіснасьць і зьмяняць яе; што хрысьціянская надзея пашырае абмежаваныя гарызонты чалавека,… што любоў у праўдзе – наймацнейшая сіла, здольная зьмяніць сьвет; што Евангельле – гарантыя свабоды і прылада вызваленьня; што фундаментальныя прынцыпы навукі Царквы пра грамадзтва, такія, як годнасьць чалавечай асобы, дапамога і салідарнасьць, заўсёды актуальныя для пракладаньня новых шляхоў разьвіцьця ў служэньні кожнаму чалавеку і ўсім людзям”.

Як дадаў Бенядыкт XVI, палітыка – гэта сфера, “надзвычай важная для праяўленьня любові”, а значыць, “патрэбны палітыкі сапраўды хрысьціянскія, а разам з тым і сьвецкія вернікі, якія былі б сьведкамі Хрыста і Евангельля ў грамадзкай і палітычнай супольнасьці”.

Папа зьвярнуў увагу на пашырэньне хаатычнага культурнага рэлятывізму, а таксама ўтылітарнага і геданістычнага індывідуалізму ў сёньняшнім сьвеце. “Трэба адшукаць і ажывіць аўтэнтычную мудрасьць палітыкі… Неабходна сапраўдная “рэвалюцыя любові”,– сказаў Пантыфік.

*Паводле Catholic.by*

# Дыялог Цэркваў: праблемы жыцьця адзінай Царквы

***Праблему жыцьця адзінай Царквы пасьля ўзьяднаньня каталікоў і праваслаўных абмеркавалі ўдзельнікі багаслоўскіх кансультацыяў у Брукліне. Гэтыя праваслаўна-каталіцкія багаслоўскія кансультацыі прайшлі з 1 па 3 чэрвеня 2010 году ў Грэцкім каледжы (Грэцкай праваслаўнай багаслоўскай школе Сьвятога Крыжа) у Брукліне, Масачусетс.***

Сустаршынямі форуму выступілі мітрапаліт Пітсбурга Максім (Канстанцінопальскі патрыярхат) і рыма-каталіцкі архібіскуп Новага Арлеану Грэгары М. Эйманд. У кансультацыях прынялі ўдзел каталіцкія і праваслаўныя сьвятары, манахі і навукоўцы-тэолагі.

Удзельнікі кансультацыяў падрыхтавалі праект рэзалюцыі “Крокі на шляху да адзінай Царквы: Нарыс праваслаўна-каталіцкага бачаньня будучыні” *(“Steps Towards a United Church: A Sketch of an Orthodox-Catholic Vision for the Future”).*

У дакуменце коратка выкладаецца гісторыя рознагалосьсяў паміж праваслаўнай і каталіцкай Цэрквамі, прычым асаблівая ўвага нададзена ролі ў Царкве біскупа Рыму – Папы. Таксама адзначаюцца моманты, якія дагэтуль разьдзяляюць абедзьве Царквы. У праекце адлюстраваны разважаньні пра тое, як магла б выглядаць адзіная Царква ў выпадку аднаўленьня еднасьці паміж каталікамі і праваслаўнымі і якія духоўныя захады неабходныя, каб дапамагчы такой еднасьці адбыцца.

Праца над праектам працягнецца падчас наступнай сустрэчы.

Удзельнікі сустрэчы таксама разгледзелі нядаўнія падзеі ў абедзвюх Цэрквах. У прыватнасьці, гаворка пра Асамблею праваслаўных япіскапаў Паўночнай і Цэнтральнай Амерыкі, якая адбылася ў Нью-Ёрку 26-27 траўня 2010 году. Асамблея заменіць Пастаянную канферэнцыю кананічных праваслаўных япіскапаў у Амерыцы *(SCOBA)* і, як чакаецца, стане афіцыйным праваслаўным фундатарам Паўночнаамерыканскіх праваслаўна-каталіцкіх кансультацыяў.

Удзельнікі кансультацыяў таксама разгледзелі пытаньні пра прымат і калегіяльнасьць у Царкве, асаблівую ўвагу зьвяртаючы на багаслоўскі аспект дзейнасьці аўтакефальных праваслаўных Цэркваў.

*Паводле Седмица.Ру*

# Румынія: экуменічная місія з Ватыкану

***Падтрымцы і ўмацаваньню еднасьці з Апостальскай Сталіцай грэка-каталіцкай супольнасьці ў Румыніі, а таксама ажыўленьню экуменічнага дыялогу з праваслаўнымі служыў візіт у Румынію 6-10 траўня 2010 году Прэфекта Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў кардынала Леанарда Сандры.***



• *Румынскія грэка-каталікі вітаюць Прэфекта Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў кард. Леанарда Сандры ў катэдры г. Блаж.*

Свой візіт у Румынію кард. Л.Сандры распачаў 6 траўня з наведваньня грэка-каталіцкага храму сьв. Васіля Вялікага ў Бухарэсьце. На наступны дзень у сталіцы ён меў шэраг сустрэчаў з кіраўніцтвам краіны. 8 траўня разам з усімі румынскімі грэка-каталіцкімі ярархамі кардынал Л.Сандры маліўся ў Мемарыяле ахвяраў – былой турме ў г. Сігет, дзе пахаваныя румынскія біскупы-мучанікі і многія іншыя вядомыя дзеячы. А ў наступныя два дні свайго візіту Прэфект Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў пабываў у Трансільваніі, дзе жыве большасьць румынскіх грэка-католікаў. У нядзелю, 9 траўня, у г. Блаж, дзе знаходзіцца рэзідэнцыя Вярхоўнага архібіскупа РГКЦ Люцыяна Мурэшана, ён адслужыў Боскую Літургію разам з епіскапатам і духавенствам РГКЦ, а затым прысутнічаў на пасяджэньні Архірэйскага Сіноду гэтай Царквы. Таксама кардынал Л.Сандры пабываў у Клужы, дзе адслужыў літургію і сустрэўся з вернікамі. Там ён меў сустрэчу з мясцовымі ўладамі і агледзеў будаўніцтва новай грэка-каталіцкай катэдры.

7 траўня Прэфект Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў меў сустрэчу ў Бухарэсьце з праваслаўным Патрыярхам Данілам. Зьверхнік Румынскай Праваслаўнай Царквы запэўніў кардынала Л.Сандры ў сваім жаданьні аднавіць перамовы з мясцовымі грэка-католікамі, якія былі спыненыя пяць гадоў таму. Гэты канфлікт двух хрысьціянскіх супольнасьцяў Румыніі датычыць справы вяртаньня грэка-католікам царкоўнай уласнасьці, якую атрымала Праваслаўная Царква ад камуністаў пасьля фармальнай ліквідацыі Румынскай Грэка-Каталіцкай Царквы ў 1948 годзе.

“Стасункі сяброўства і супрацоўніцтва, якія сёньня існуюць паміж Румынскай Праваслаўнай і Каталіцкай Цэрквамі, павінны быць умацаваныя, асабліва ў гэты гістарычны час, калі еўрапейская супольнасьць усё больш адчувае націск секулярызму”, – гаворыцца ў заяве Румынскага Патрыярхату, якая была апублікавана пасьля сустрэчы Патрыярха Румынскай Праваслаўнай Царквы Данілы і Прэфекта Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў кардынала Леанарда Сандры. “Супрацоўніцтва паміж хрысьціянамі – не прыхамаць, а маральны абавязак місіянера”, – адзначаецца ў заяве, дзе таксама яшчэ раз падкрэсьліваецца гатоўнасьць аднавіць дыялог з Грэка-Каталіцкай Царквой Румыніі, каб “знайсьці неабходныя практычныя рашэньні для вырашэньня рознагалосьсяў, якія датычаць маёмасьці”.

У ліпені 2010 году Сьвяты Сінод Румынскай Праваслаўнай Царквы павінен разгледзець прапановы пра аднаўленьне дыялогу з грэка-каталікамі ў рамках зьмешанай камісіі, а таксама магчымасьць запрашэньня ў Румынію Папы Бенядыкта XVI.

У Румыніі забарона на дзейнасьць каталікоў усходняга абраду была зьнятая толькі ў 1990 годзе. Ня здолеўшы вярнуць сваю маёмасьць у выніку двухбаковых перамоваў з румынскімі праваслаўнымі і пад пагрозаю прыняцьця парламентам краіны новых прававаых актаў, якія пазбавілі б грэка-католікаў нават права на сумеснае выкарыстаньне іх былой маёмасьці, Грэка-Каталіцкая Царква зьвярнулася ў суд, што стала падставай для аднабаковага спыненьня перамоваў з боку Праваслаўнай Царквы. На пачатку 2010 году Еўрапейскі суд у Страсбургу разгледзеў пазоў грэка-каталіцкай парафіі ў Самбаце. Паводле вердыкту, вынесенага суддзямі, грэка-каталікі Самбата падвергліся дыскрымінацыі з боку румынскіх уладаў, бо ня мелі магчымасьці сумесна з праваслаўнымі выкарыстоўваць свой былы храм і нават былі пазбаўленыя магчымасьці абараніць свае правы на маёмасьць у судах. Еўрапейскі суд угледзеў у гэтым парушэньне Канвенцыі правоў чалавека і абавязаў урад Румыніі выплаціць самбацкім грэка-каталікам 23000 еўра.

Насельніцтва Румыніі – 22 мільёны чалавек, з іх 87 % належаць да Румынскай Праваслаўнай Царквы. У яе карыстаньні цяпер знаходзяцца больш за 2000 былых грэка-каталіцкіх цэркваў, а таксама некалькі тысячаў іншых будынкаў. Грэка-каталікам было вернута толькі 160 храмаў. Паводле афіцыйных дадзеных ватыканскага выданьня *“Annuario Pontificio”,* у 2007 годзе грэка-каталіцкая супольнасьць Румыніі налічвала больш за 776 тысячаў вернікаў.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

*Паводле bru.ro, radiovaticana.org, Седмица.Ru*

# Агульнапольскае чуваньне Адновы ў Сьвятым Духу

***На Яснай Гары ў Чанстахове (Польшча) 14-15 траўня адбылося XVI Агульнапольскае чуваньне Адновы ў Сьвятым Духу. У ім прынялі ўдзел каля 70 тысячаў вернікаў.***



Спатканьні сябраў Адновы ў Сьвятым Духу з 1983 г. штогод адбываюцца ў трэцюю суботу траўня. Дэвізам сёлетняй малітоўнай сустрэчы прадстаўнікоў харызматычнага руху стаў заклік сьв. апостала Паўла з яго Пасланьня да Эфесянаў: “Умацоўвайцеся Госпадам і магутнасьцю сілы Ягонай!”

У праграме малітоўнага чуваньня былі малітвы праслаўленьня і ацаленьня, катэхезы й сьведчаньні, а таксама Служба Божая, якую ўзначальваў біскуп Браніслаў Дэмброўскі, адказны за Рух Адновы ў Сьвятым Духу ў Польшчы.

Падчас гэтай сустрэчы вернікі разам маліліся і ўслухоўваліся ў Слова Божае, разважалі над выклікамі і заданьнямі часу, якія сёньня стаяць перад сябрамі самага шматлікага каталіцкага руху ў Польшчы. Сёлета таксама сябры руху засяродзілі сваю ўвагу над разважаньнямі пра ролю сьвятара ў сучасным сьвеце і пра значэньне ўсеагульнага сьвятарства.

“Людзі патрабуюць кантакту з Госпадам, яны хочуць сустрэць жывога Бога, Які клапоціцца пра іх, Які ацаляе, дае сілы прабачыць іншаму чалавеку”, – кажа Славамір Чайкоўскі з Уроцлава. Праз сваё сьведчаньне шчырай і глыбокай веры ўдзельнікі Адновы ў Сьвятым Духу прагнуць ісьці з Добрай Весткай у розныя асяродкі, так як рабілі гэта першыя апосталы. Хочуць таксама зьвярнуць увагу маладых людзей на духоўныя пагрозы і спакусы, якія часта хаваюцца на першы погляд за бязьвіннымі формамі сучаснай культуры.

У Польшчы дзейнічае каля 800 супольнасьцяў Адновы ў Сьвятым Духу, да якіх належыць больш за 30 тысячаў вернікаў.

***29 траўня 2010 году ў Мюнхенскай каталіцкай акадэміі прайшоў сімпозіюм на тэму эклезіялогіі і міжхрысьціянскіх стасункаў. Арганізатарам гэтага навуковага мерапрыемства выступіў Інстытут папы Бенядыкта XVI, заснаваны біскупам Рэгензбургзкім Герхардам Людовікам Мюлерам. Гэты інстытут займаецца публікацыяй і распаўсюдам багаслоўскіх прац папы Бенядыкта XVI. Удзельнікам канферэнцыі быў прапанаваны даклад намесьніка Старшыні Аддзела зьнешніх царкоўных сувязяў Маскоўскага Патрыярхату ігумена Філіпа (Рабых) “Папа Бенядыкт XVI і дыялог Рыма-Каталіцкай Царквы з Праваслаўнымі Цэрквамі”. Гэты тэкст, дзе разглядаюцца экуменічныя ініцыятывы Папы, прапануем таксама і чытачам “Царквы” ў якасьці вартага ўвагі погляду афіцыйнага прадстаўніка РПЦ МП на гэтыя ініцыятывы, на дыялог і праблемы еднасьці хрысьціянаў. Адзначым, што гэтыя ацэнкі падзяляюць далёка ня ўсе праваслаўныя ўнутры самой РПЦ. Свой погляд на некаторыя акрэсьленыя ў матэрыяле праблемы маюць і грэка-каталікі.***

**Ігумен ФІЛІП (Рабых), РПЦ МП**

# Папа Бенядыкт XVI і дыялог Рыма-Каталіцкай Царквы з Праваслаўнымі Цэрквамі

У 2006 годзе перад паездкай у Стамбул падчас аўдыенцыі для ўдзельнікаў пленарнага паседжаньня Папскай Рады па спрыяньні еднасьці хрысьціянаў папа Бенядыкт XVI заявіў пра неабходнасьць “паскарэньня крокаў для аднаўленьня поўнай сулучнасьці” з праваслаўнымі.

Як вядома, у “Асноўных прынцыпах стаўленьня да іншаслаўя”, прынятых у 2000 годзе на Архірэйскім Саборы Расейскай Царквы, імкненьне да яднаньня хрысьціянаў разглядаецца як задача “першачарговай важнасьці для Праваслаўнай Царквы на ўсіх узроўнях яе быцьця” *(п. 2.1)*. І ўсё ж размова пра паскораныя тэмпы аб'яднаньня дзвюх Цэркваў непазьбежна выклікае шэраг пытаньняў у праваслаўным асяроддзі, перш за ўсё што да цаны такога аб'яднаньня. У гісторыі ёсьць дастаткова прыкладаў, калі шлях да еднасьці праваслаўных і каталікоў разумеўся як перамога аднаго боку над іншым. Больш таго, сёньня ў праваслаўным асяроддзі назапасілася нямала крытыкі экуменічнай дзейнасьці. Нярэдка для праваслаўнага вуха само паняцьце “экуменізм” азначае сукупнасьць ілжывых тэорыяў і метадаў для дасягненьня царкоўнай еднасьці на аснове кампрамісаў і абыякавасьці да веранавучальнай ісьціны.

Але было б несправядліва рабіць пасьпешныя высновы пра падыход цяперашняга папы да пытаньня ў справе еднасьці і атаясамліваць яго прапановы з некаторымі хваравітымі для праваслаўных гістарычнымі ўспамінамі. Больш таго, сам тэрмін “экуменізм” на Захадзе зьяўляецца тэхнічным, а таму ў кожным канкрэтным выпадку яго зьместоўнае напаўненьне трэба растлумачваць. Таму важна разгледзець увесь комплекс ідэяў, з якімі сёньня выступае папа Бенядыкт XVI у дыялогу з праваслаўнымі, і паспрабаваць выявіць узаемасувязі паміж імі.

## Багаслоўскі падмурак дыялогу з праваслаўнымі

Перш за ўсё, папа ў шматлікіх сваіх выступах і пасланьнях прыводзіць важкія багаслоўскія аргументы на карысьць актыўных намаганьняў усіх хрысьціянаў у справе пошуку царкоўнай еднасьці. У адным з сваіх выступаў ён сьцьвярджае, што гэтая дзейнасьць вынікае з “паслушэнства Евангельлю”[1], якое адкрывае волю Госпада пра еднасьць усіх, хто верыць у Яго *(Ян 17, 21)*. Тую ж самую евангельскую спасылку ў сваім дакументе дае і Расейская Царква, абгрунтоўваючы неабходнасьць намаганьняў у імкненьні да еднасьці хрысьціянаў[2].

Іншым сур'ёзным матывам для больш інтэнсіўнай дзейнасьці на гэтай ніве зьяўляецца аслабленьне хрысьціянскай прапаведзі ў сьвеце праз падзелы і нязгоды сярод тых, хто верыць у Хрыста. У многіх пропаведзях і зваротах пантыфіка выказваецца заклапочанасьць з прычыны адыходу ад хрысьціянства, які працягваецца, і нарастаньня змаганьня з ім у тых краінах, якія раней былі апорай гэтай рэлігіі. Так, у сумеснай дэкларацыі папы Бенядыкта XVI і патрыярха Барталамея пра гэта сказана: “Мы ня можам ігнараваць рост секулярызацыі, рэлятывізму і нават нігілізму, асабліва ў заходнім сьвеце”. Таму пантыфік часта тлумачыць неабходнасьць руху да еднасьці, зьвяртаючы ўвагу на другую частку цытаты з малітвы Госпада Ісуса Хрыста да Айца: “каб сьвет паверыў” *(Ян 17, 21)*.

Трэба адзначыць, што такое прачытаньне знакаў часу ў сьвятле евангельскіх праўд характэрнае і для цяперашняга патрыярха Маскоўскага і ўсёй Русі – Кірылы. У 2010 годзе ў сваёй казані ў дзень памяці мітрапаліта Філіпа, сьвятога вызнаўцы XVI стагоддзя, патрыярх падкрэсьліў: “Толькі ў еднасьці Царква здольная ўплываць на навакольны сьвет, распаўсюджваючы на яго сваё маральнае ўзьдзеяньне. Менавіта таму літаральна ад самага пачатку хрысьціянскае гісторыі вораг роду чалавечага імкнуўся падзяліць Царкву. Ужо ў апостальскія часы зьяўляюцца гарэзіі, а затым рознага роду расколы, і практычна ўся гісторыя Царквы – гэта гісторыя барацьбы за сваё адзінства. Для чаго ж патрэбна гэтае адзінства? Для таго, каб сьведчаньне было яркім, моцным і пераканаўчым, каб ніхто ніколі ня мог сказаць: “Навошта вы кажаце нам усё гэта? Самі на сябе паглядзіце – бо вы ж падзеленыя”. Вораг роду чалавечага здолеў падзяліць сусьветнае хрысьціянства. Цяжка сказаць, як разьвівалася б гісторыя, калі б не адбыўся падзел хрысьціянаў на ўсходніх і заходніх. Напэўна, ход гісторыі быў бы зусім іншым. Мы спадзяемся, што ў пэўны час, можа быць, паводле малітваў Царквы, Госпад прыхіліць літасьць да ўсіх, хто заклікае Яго сьвятое імя, і зноў еднасьць Паўсюднай Царквы будзе бачная роду чалавечаму”.

І ўсё ж, як відавочна, актуальнасьць праваслаўна-каталіцкага дыялогу пра еднасьць не азначае для папы заклікаў да багаслоўскага рэлятывізму. У адным з сваіх выступаў ён даў наступнае тлумачэньне такога дыялогу: “Наогул жа, экуменізм, які трэба разьвіваць перш за ўсё, – гэта экуменізм любові, які бярэ пачатак непасрэдна з новай запаведзі, якую пакінуў Ісус Сваім вучням. Любоў, якая суправаджаецца адпаведнымі ўчынкамі, выклікае давер, адкрывае сэрцы і вочы. Дыялог любові па сваёй прыродзе спрыяе дыялогу праўды і прасьвятляе яго: толькі ў поўнай праўдзе адбываецца канчатковая сустрэча, да якой вядзе Дух Хрыста. І вядома ж не рэлятывізму або легкадумнаму ды ілжываму ірэнізму вырашаць экуменічныя праблемы. Яны толькі дэзарыентуюць і адводзяць з правільнага шляху”[3]. Тое ж самае неаднаразова казалі і многія прадстаўнікі Расейскай Праваслаўнай Царквы.

## Імкненьне да сістэмнага дыялогу з праваслаўнымі

Відавочна, што ў разуменьні папы паскарэньне крокаў на шляху да еднасьці азначае прыкладаньне рэальных і сістэматычных намаганьняў для вырашэньня пытаньняў, якія разьдзяляюць, а не вызначэньне канкрэтных часавых тэрмінаў для завяршэньня праваслаўна-каталіцкага дыялогу. У гэтым пераконваюць наступныя словы з пасланьня папы да патрыярха Барталамея на сьвята сьвятога апостала Андрэя Першапакліканага, накіраванае ў 2009 годзе: “Тэма пленарнага паседжаньня

*1. Сьвятая справа аднаўленьня еднасьці хрысьціянаў. Яшчэ столькі належыць зрабіць. Прамова на аўдыенцыі з паломнікамі напярэдадні Тыдня малітваў за еднасьць хрысьціянаў, 18 студзеня 2006.*

*2. Основные принципы отношения к инославию Русской Православной Церкви, пункт 2.1.*

*3. Паскарэньне крокаў да еднасьці. Аналіз сітуацыі для Папскай Рады. Слова на аўдыенцыі для ўдзельнікаў пленарнага пасяджэньня Папскай Рады па спрыяньні еднасьці хрысьціянаў, 17 лістапада 2006 году.*

“Роля Біскупа Рыму ў сулучнасьці Царквы ў першым тысячагоддзі”, безумоўна, зьяўляецца складанай і запатрабуе шырокіх дасьледаваньняў і цярплівага дыялогу, калі нашай мэтай зьяўляецца агульная інтэграцыя традыцыяў Усходу і Захаду”.

Трэба прызнаць, што за мінулыя 5 гадоў папам Бенядыктам XVI былі зроблены сур’ёзныя крокі для разьвіцьця стасункаў Рыма-Каталіцкай Царквы з Праваслаўнымі Цэрквамі. Гэтыя намаганьні выяўляюцца ў аднаўленьні працы сумеснай праваслаўна-каталіцкай камісіі, візіце папы ў Канстанцінопаль, абмене пасланьнямі паміж папам і ўсяленскім патрыярхам, сустрэчах з асобнымі праваслаўнымі зьверхнікамі і ярархамі, у тым ліку з цяперашнім патрыярхам Маскоўскім і ўсёй Русі Кірылам да яго ўзыходжаньня на патрыяршы пасад, у правядзеньні шэрагу сумесных значных навуковых і культурных мерапрыемстваў. Усе гэтыя дзеяньні дазволілі ўсталяваць шэраг важных каардынат сістэмнага дыялогу і супрацоўніцтва з праваслаўнымі.

## Багаслоўскі дыялог паміж каталікамі і праваслаўнымі

Першай важнай каардынатай зьяўляецца механізм рэгулярных зносінаў двух бакоў на платформе Міжнароднай зьмешанай камісіі па багаслоўскім дыялогу паміж Каталіцкай Царквой і Праваслаўнымі Цэрквамі. Гэты механізм быў створаны яшчэ ў 1979 годзе і зноў запрацаваў у 2006 годзе, у другі год пантыфікату Бенядыкта XVI. Пасьля пяцігадовага перапынку, у 2006 годзе адбылася сустрэча ў Бялградзе, у 2007 годзе – у Равэне, у 2009 годзе – на Кіпры. Хоць праца камісіі ідзе часам не зусім гладка, пра што сьведчыць усім добра вядомы інцыдэнт у Равэне, сам факт існаваньня сумеснай пляцоўкі для багаслоўскага дыялогу зьяўляецца станоўчым. Яна забясьпечвае вядзеньне важнай багаслоўскай працы, без якой нельга адшукаць веранавучальнае аднадумства, а значыць і аднаўленьне еўхарыстычнай сулучнасьці.

Папа Бенядыкт XVI узьняў значэньне гэтай пляцоўкі двухбаковага дыялогу, пагадзіўшыся з вынясеньнем на абмеркаваньне яе ўдзельнікаў вузлавой тэмы, па якой ёсьць разыходжаньні паміж каталікамі і праваслаўнымі – служэньне Рымскага біскупа ў Царкве. Пры гэтым папа працягнуў лінію свайго папярэдніка, пра што ён адкрыта заявіў на Фанары ў 2006 годзе: “Папа Ян Павел II зрабіў запрашэньне ўступіць у братэрскі дыялог, накіраваны на пошук спосабаў, пры дапамозе якіх сёньня можа ажыцьцяўляцца Пятрова служэньне, пры гэтым выяўляючы павагу да яго прыроды і сутнасьці, каб магло “ажыцьцяўляцца прызнанае і аднымі, і другімі служэньне любові”… Сёньня я жадаю ўзгадаць і аднавіць гэта запрашэньне”[4]. Тым самым Рымская Царква прадэманстравала братэрскую адкрытасьць, прапанаваўшы абмеркаваць самую вострую і балючую тэму дыялогу з праваслаўнымі.

Праз тры гады, у 2009 годзе ў афіцыйным пасланьні патрыярху Барталамею з нагоды сьвята апостала Андрэя папа ўдакладніў базіс, на якім Каталіцкая Царква гатовая разглядаць сучаснае служэньне Рымскага папы: “гаворка ідзе пра тое, каб разам, натхнёныя мадэльлю першага тысячагоддзя, шукалі формы, у якіх служэньне Біскупа Рыму можа ажыцьцяўляць служэньне любові, прызнаванае ўсімі (*гл. Ut Unum Sint, 95*) Таму будзем маліць Бога, каб блаславіў нас; і няхай Сьвяты Дух вядзе нас па гэтым цяжкім, але шматабяцальным шляху”.

Без сумневу гэта яшчэ адзін крок, важны для разьвіцьця дыялогу праваслаўных і каталікоў. Па сутнасьці, Каталіцкая Царква абвясьціла пра сумеснае з праваслаўнымі прызнаньне веры і ўладкаваньня Царквы першага тысячагоддзя ў якасьці крытэру для ацэнкі сучаснага жыцьця хрысьціянаў. Акрамя таго, вялікае значэньне цяперашні папа надае вяртаньню сьвятаайцоўскай думкі ў якасьці кіраўніцтва сучасным царкоўным жыцьцём. Гэта адкрывае рэальную магчымасьць для адшуканьня праваслаўнымі і каталікамі агульнай меры для разгляду спрэчных пытаньняў. У сувязі з гэтым вельмі плённым можа стаць дасьледаваньне прымату ў Царкве з пункту гледжаньня багаслоўя сулучнасьці, якое прапанаваў папа ў лісьце да патрыярха Барталамея ў 2009 годзе: “Каталіцкая Царква разумее Пятрова служэньне як дар Госпада Сваёй Царкве. Гэтае служэньне належыць тлумачыць не з пункту гледжаньня ўлады, але ў сферы эклезіялогіі сулучнасьці, як служэньне еднасьці ў праўдзе і любові. Біскуп Рымскай Царквы, якая першынствуе ў любові (сьв. Ігнат Антыяхійскі), лічыцца *Servus Servorum Dei* (сьв. Рыгор Вялікі)”. Высновы, якія вынікаюць з гэтай багаслоўскай перспектывы для ўладкаваньня Царквы, будуць разгледжаны ўвосень гэтага году ў Вене. Але ўжо цяпер можна сказаць, што пошук адказаў на сучасныя пытаньні ў досьведзе непадзеленай Царквы можа прынесьці багаты плён. Менавіта такі кірунак працы, у прыватнасьці, вітаецца ў дакуменце Расейскай Царквы пра стаўленьне да іншых хрысьціянаў: “Вельмі ўсьцешным і натхняльным зьяўляецца той факт, што іншаслаўная багаслоўская думка ў асобе сваіх лепшых прадстаўнікоў выяўляе шчырую і глыбокую цікавасьць да вывучэньня сьвятаайцоўскай спадчыны, веравучэньня і ладу Старажытнай Царквы” (п. 4.6).

У гэтых спрыяльных умовах вельмі важна, каб праваслаўны сьвет не ашукаўся ў сваіх чаканьнях і сапраўды адчуў братэрскую адкрытасьць з каталіцкага боку. Трэба памятаць, што ў праваслаўна-каталіцкага дыялогу ня простая гісторыя. На Ўсходзе дагэтуль існуе засьцярога адносна таго, што дыялог з каталікамі можа прывесьці да неапраўданых саступак з праваслаўнага боку. Так, на сустрэчы 19 траўня 2010 году з кардыналам Касьперам мітрапаліт Валакаламскі Іларыён папярэдзіў пра гэтую занепакоенасьць: “Наша задача – правесьці сур’ёзную навуковую працу і высьветліць для сябе, як разумеўся прымат Рымскага біскупа на працягу першага тысячагоддзя. Але ні ў кога не павінна ўзьнікаць спакуса спрабаваць штучна прымяняць у жыцьці Ўсходняй Царквы тыя эклезіялагічныя мадэлі, што былі характэрныя для Захаду”.

Сур’ёзныя засьцярогі ў гэтым плане ў многіх праваслаўных узьніклі пасьля падпісаньня ў Равэне ў 2007 годзе выніковага дакументу, у якім ёсьць наступныя словы: “Абедзьве Царквы працягвалі склікаць Саборы, калі ўзьнікалі сур'ёзныя крызісы. У гэтых Саборах удзельнічалі біскупы Памесных Цэркваў, якія знаходзіліся ў сулучнасьці з Рымскім пасадам, і адпаведна, хоць гэта і разумелася папіншаму, біскупы Памесных Цэркваў, якія знаходзіліся ў сулучнасьці з Канстанцінопальскім пасадам”. Тлумачэньні пра тое, што маецца на ўвазе пад гэтай фразаю, даў мітрапаліт Пергамскі Ян (Зазіулас), прадстаўнік Канстанцінопальскага Патрыярхату ў камісіі, які заявіў: “Ва Ўсходняй Царкве першынство ідзе за Канстанцінопалем, ня ў сэньсе ўлады, але ў сэньсе ініцыятывы і ўзгадненьня. Упершыню ў дакуменце быў ужыты тэрмін *“primus”* у тым яго значэньні, якое ён меў у традыцыі першага тысячагоддзя”[5].

Аднак ёсьць вялікія сумневы ў тым, што ўсе праваслаўныя пагодзяцца з такім разуменьнем першынства ў першым тысячагоддзі на Ўсходзе, а значыць і з яго такім жа разуменьнем сёньня. На Архірэйскім Саборы 2008 году епіскапат Маскоўскага Патрыярхату выказаў сваю поўную нязгоду з такім пунктам гледжаньня: “Шануючы еднасьць з усімі Памеснымі Праваслаўнымі Цэрквамі і асабліва з Маці-Царквой Канстанцінопальскага Патрыярхату, з якім шматвяковымі гістарычнымі сувязямі непарыўна злучана спадчына Сьвятой Русі, Сабор выказвае глыбокую заклапочанасьць у сувязі з тэндэнцыямі перагляду кананічнай традыцыі, што выяўляецца ў выказваньнях і дзеяньнях некаторых прадстаўнікоў Сьвятой Канстанцінопальскай Царквы”[6]. Гэтая саборная пастанова кажа пра наяўнасьць сур’ёзнай праблемы, якую нельга проста вырашыць большасьцю галасоў ці нейкімі дыпламатычнымі прыёмамі.

## Саборныя намаганьні праваслаўных і каталікоў

Калі мы жадаем разам, праваслаўныя і каталікі, прыйсьці да агульнага разуменьня прымату ў Паўсюднай Царкве, тады трэба голас кожнай Памеснай Царквы ўлічваць і ўспрымаць сур’ёзна. Паданьне Ўсходніх Цэркваў ня ведае ніякіх асаблі-

Працяг на с.8-9 ⇨

*4. Еднасьць і заклік двух братоў. Патрыярх і Папа – Андрэй і Пётр. Прамова Папы Бенядыкта XVI пасьля заканчэньня літургіі з нагоды ўрачыстасьці сьв. Андрэя Першапакліканага, 2006 год.*

*5. Константинопольский патриархат упрекает Русскую церковь в авторитаризме и стремлении к изоляции, http://www.interfax-religion.ru/?act=news&div=20961*

*6. Определение Освященного Архиерейского Собора Русской Православной Церкви (Москва, 24-29 июня 2008 года) “О единстве Церкви”.*

# Папа Бенядыкт XVI і дыялог Рыма-Каталіцкай Царквы з Праваслаўнымі Цэрквамі

⇨ Пачатак на с. 6-7

вых паўнамоцтваў адной катэдры для захаваньня праваслаўя. Гэтай справе ўсе Цэрквы служаць аднолькава. Дарэчы, менавіта таму сярод некаторых праваслаўных са шкадаваньнем было ўспрынята тое, што ў тытуле пантыфіка больш ня будзе ўжывацца "Патрыярх Захаду". Разумеючы ўсе прычыны, выкладзеныя ў камюніке Рады па спрыяньні еднасьці хрысьціянаў, усё ж для праваслаўных гэты тытул асацыяваўся з навучаньнем пра супрацоўніцтва роўных патрыярхатаў. Акрамя таго, у праваслаўным асяроддзі добра жывая памяць пра сьвяціцеля Марка Эфэскага, які адзіны не падпісаў вызначэньні Ферара-Флярэнцкага сабору. Аднак менавіта яго пазіцыя пазьней і была прызнана ўсім праваслаўным сьветам.

Сітуацыя ў Равэне сьведчыць пра тое, што неабходна ня проста разважаць пра саборнасьць у Царкве, але прымяняць гэты прынцып для рашэньня канкрэтных праблемаў. Ва ўжо цытаванай пропаведзі патрыярха Кірылы наступным чынам гаворыцца пра неабходнасьць сталых намаганьняў па падтрыманьні саборнасьці ў Царкве для захаваньня яе еднасьці: "Вельмі важна разьвіваць гэтыя нарады сярод архірэяў, саборны пачатак Царквы. Толькі праз такое аднадумства Царква становіцца моцнай і здольнай спыніць любыя падзелы. Толькі пры такой еднасьці, якая ўвасабляецца ў саборнай мудрасьці, Царква здольная казаць мовай, якая можа пераконваць сьвет, які вакол нас". У сувязі з гэтым для Праваслаўнай Царквы вельмі важна, што папа Бенядыкт XVI абвясьціў пра свае планы па разьвіцьці сінадальнага вымярэньня кіраваньня Царквой.

Улічваючы ўсё большае прызнаньне саборнага прынцыпу ў царкоўным жыцьці таксама і з каталіцкага боку, было б важна прымаць усе дакументы толькі пры наяўнасьці згоды ўсіх Праваслаўных Цэркваў. Ігнаруючы гэты прынцып, мы ставім пад пагрозу кожны наступны этап дыялогу і яго агульны посьпех. У выніку адыходу ад гэтага прынцыпу ў працы камісіі ў Равэне, мы маем дакумент, які падпісалі ня ўсе Цэрквы. Значыць, у далейшым паўстануць праблемы з яго рэцэпцыяй. Так, дакумент Расейскай Царквы пра іншаслаўе абвяшчае: "Ніякія дакументы і матэрыялы багаслоўскіх дыялогаў і перамоваў ня маюць абавязковай сілы для Праваслаўных Цэркваў да канчатковага зацьвярджэньня іх усёй Праваслаўнай Паўнатою" (п. 4.3). Выйсьце бачыцца ў тым, каб унесьці ў Равэнскі дакумент фармулёўку, прыдатную для ўсіх праваслаўных.

## Адсутнасьць дыялогу з грэка-каталікамі

Аднак сур'ёзным недахопам двухбаковага дыялогу застаецца адсутнасьць абмеркаваньня ролі і становішча грэка-каталіцкіх супольнасьцяў у адносінах паміж праваслаўнымі і каталікамі. Усе 1990-ыя гады праходзілі пад знакам спробаў выпрацаваць агульную пазіцыю ў гэтай сферы. Як вядома, у 1993 годзе ў Баламандзе зьмешаная камісія склала адпаведны дакумент, але ён ня быў зацьверджаны. Тэму уніі не атрымлівалася абмеркаваць і ў пазьнейшы час, з-за чаго дыялог і быў уласна перапынены напачатку 2000-х гадоў. Аднак гэты дыялог надзённа неабходны, каб зьняць засьцярогу адносна рэанімацыі ўніяцкай мадэлі як гатовага шляху аднаўленьня еднасьці паміж праваслаўнымі і каталікамі. Гэтыя асьцярогі спарадзіла варожасьць грэка-каталікоў да праваслаўных на Заходняй Украіне ў 1990-ыя гады, а затым іх місіянерская актыўнасьць у паўднёвых і ўсходніх рэгіёнах Украіны, дзе яны ніколі не прысутнічалі. Узмацнялі гэтае ўражаньне факты празелітызму асобных каталіцкіх ордэнаў і арганізацыяў на кананічнай тэрыторыі Расейскай Царквы.

Вядома, сёньня ўжо не назіраецца таго напалу адносінаў, які быў пасьля развалу Савецкага Саюзу, але няма таксама і жаданьня ў грэка-каталікоў уступаць у дыялог з праваслаўнымі. Тым часам такія прапановы шмат разоў агучваліся Маскоўскім Патрыярхатам, а нядаўна былі адноўлены мітрапалітам Валакаламскім Іларыёнам. На жаль, яны засталіся без станоўчай рэакцыі. Прапануючы дыялог грэка-каталікам, Расейская Царква абапіраецца на станоўчы досьвед узаемадзеяньня з каталікамі ў Расеі ў рамках агульнай камісіі па вырашэньні цяжкіх пытаньняў. Мы здолелі дасягнуць адчувальных посьпехаў ва ўзаемаразуменьні, а таму ёсьць надзея на тое, што такая мадэль дыялогу можа быць пасьпяхова выкарыстана і ў іншых сітуацыях. Такім чынам, падаецца важным адшукаць адпаведныя для ўсіх бакоў фарматы для абмеркаваньня тэмы грэка-каталікоў, магчыма, за межамі двухбаковай багаслоўскай камісіі.

## Духоўнае жыцьцё Цэркваў

Яшчэ адным параметрам праваслаўна-каталіцкага дыялогу зьяўляецца само жыцьцё Цэркваў. Папа ня раз паўтараў, што рух да еднасьці абумоўлены тым, наколькі сапраўднымі хрысьціянамі мы зьяўляемся. Так, у адной са сваіх прамоваў ён нагадаў пастанову Другога Ватыканскага Сабора: "Сабор недвухсэнсоўна сказаў пра гэта вернікам, заявіўшы: "Чым бліжэй будуць іх адносіны з Айцом, з Словам і з Духам, тым лягчэй здолеюць яны, – гэта значыць мы здолеем, – паглыбіць і ўзгадваць узаемныя братэрскія адносіны" *(ibid., 7)*[7]. Шлях да еднасьці ня ў меншай ступені залежыць ад духоўнай працы кожнага хрысьціяніна над сабой, паколькі, чым бліжэй мы да Бога, тым бліжэй мы адзін да аднаго.

На праваслаўным Усходзе існуе ўстойлівае меркаваньне, што духоўнае жыцьцё Захаду знаходзіцца ў заняпадзе: кароткія набажэнствы, адсутнасьць манастыроў з сур'ёзным духоўным жыцьцём, зьнікненьне аскетычных высілкаў з жыцьця вернікаў і іншае. Таму вялікую павагу ў праваслаўных выклікалі намаганьні папы Бенядыкта XVI па паглыбленьні літургічнага жыцьця, захвочваньне атрымліваць смак ад багаслоўскага разважаньня, заклікі да актыўнай сацыяльнай пазіцыі хрысьціянаў у Каталіцкай Царкве. Больш таго, сам папа паказвае прыклад прытрымліваньня гэтых асноваў царкоўнага жыцьця. Нягледзячы на свае вялікія нагрузкі і паважны ўзрост, ён рэгулярна служыць, прапаведуе, займаецца багаслоўскімі працамі. Тым самым ён задае лад жыцьця верніка, для якога адносіны з Богам зьяўляюцца крыніцай усяго ягонага сьвецкага жыцьця. Такі падыход да хрысьціянскага жыцьця блізкі і зразумелы для праваслаўнага чалавека.

Найважнейшай часткай жыцьця Царквы зьяўляецца малітва, без звароту да якой немагчыма казаць пра дасягненьне еднасьці. У Каталіцкай Царкве ўстаноўлены сьпецыяльны тыдзень, прысьвечаны асаблівай малітве за еднасьць. Папа заклікае ўсіх хрысьціянаў да руплівай сумеснай малітвы за еднасьць, абапіраючыся на словы Госпада Ісуса Хрыста: "Калі двое з вас пагодзяцца на зямлі прасіць за любую справу, дык чаго б ні папрасілі, будзе ім ад Айца Майго Нябеснага" *(Мц 18,19)*. Магчымасьць для каталікоў сумеснай малітвы хрысьціянаў розных канфесіяў папа тлумачыць наступным чынам: "Элементы – якія, нягледзячы на сталы падзел, злучаюць хрысьціянаў – нясуць у сабе магчымасьць узьнесьці сумесную малітву да Бога". Калі людзі вераць у Трыадзінага Бога і Госпада Ісуса Хрыста, дык гэта дастатковая ўмова, каб выканаць формулу малітвы, прапанаваную ў Евангельлі. На думку папы, "сумесныя малітвы, якія ўзносяцца ва ўсім сьвеце, асабліва ў гэты час, або ў перыяд Пяцідзясятніцы, зьўляюцца, апрача ўсяго, праяваю волі агульнага імкненьня да аднаўленьня поўнай сулучнасьці ўсіх хрысьціянаў. Гэтыя сумесныя маленьні "зьяўляюцца, несумнеўна, найвярнейшым сродкам выпрасіць ласку яднаньня" *(ibid., 8)*.

Гэтае разважаньне запрашае і праваслаўных асэнсаваць магчымасьць удзелу ў пэўных відах сумеснай малітвы з іншаслаўнымі, не зважаючы на адсутнасьць еўхарыстычнай сулучнасьці. Аднак у праваслаўным сьвеце адносна гэтага няма згоды. Таму, ня дзіўна, што, калі папа Бенядыкт XVI і патрыярх Барталамей зьдзяйсьнялі сумесную малітву, гэта выклікала крытыку ў праваслаўнай супольнасьці. Верагодна, перш чым ажыцьцяўляць такую практыку, неабходна дасягнуць агульнаправаслаўнай згоды наконт гэтага.

## Місіянерскае сьведчаньне Цэркваў

Нарэшце, яшчэ адным параметрам праваслаўна-каталіцкіх стасункаў зьяўляецца місіянерскае сьведчаньне Царквы. Сярод праваслаўных нярэдка можна сустрэць уяўленьне пра тое, што пасьля

# Астанкі на могілках

***На пачатку верасьня мінулага году СМІ абляцела вестка, што пры будаўнічых работах на месцы царквы Сьвятога Духа ў Менску будаўнікі разьбілі крыпту з астанкамі невядомых людзей.***

Адзначым, што заказчыкам будаўніцтва зьяўляецца КУП "Менская спадчына", генеральным падрадчыкам – будаўнічае ўпраўленьне №3 адкрытага акцыянернага таварыства "Будтрэст № 1", адказным вытворцам – С. Б. Насыраў (зьвесткі ўзятыя з пашпарта аб'екту).

Царква Сьвятога Духа была ўзьведзена ў XVII стагоддзі, што называецца, з нуля. Яна стала домам малітвы для насельнікаў жаночага і мужчынскага манастыроў уніяцкага ордэну базыльянаў. Гэта была арыгінальная, не падобная на іншыя царкоўная пабудова ў стылі рэнесансу. Калі будынкі манастыроў захаваліся, дык царкву ў 1936 годзе ўзарвалі. І вось "Менская спадчына" вырашыла пабудаваць на месцы царквы дзіцячую філармонію. Сам праект будаўніцтва дзіцячай філармоніі на месцы царквы распрацавалі незадоўга да скону камуністычнага рэжыму – у 1984 годзе. У 2009 годзе гэты праект выцягнулі з-пад сукна і пачалі яго рэалізацыю.

Кожны больш-менш адукаваны чалавек ведае, што ў старых цэрквах, а дакладней – пад цэрквамі і каля іх хавалі сьвятароў, манахаў і фундатараў. І згодна з агульнапрынятымі нормамі будаўнічыя работы на месцы цэркваў павінны весьціся пад кантролем археолагаў. Пры земляных работах на такіх аб'ектах выкарыстоўваецца малая механізацыя. Пры будаўніцтве ж дзіцячай філармоніі ў Менску мы бачылі самую сапраўдную "экскаватарную археалогію".

У сувязі са знаходкаю крыпты і астанкаў сам па сабе паўстаў шэраг пытаньняў. Ці будуць астанкі вернутыя на іх месца? Калі астанкі вернуць, то ці будзе КУП "Менская спадчына" па-ранейшаму будаваць на месцы царквы забаўляльную ўстанову, каб там ладзілі скокі і сьпявалі вясёлыя песенькі? Калі астанкі ня будуць вернутыя на месца іх пахаваньня, то дзе іх пахаваць? І, нарэшце, хто даў нам усім права распараджацца астанкамі па сваім гледжаньні?

Падобна на тое, што "Менскую спадчыну" гэтыя пытаньні не турбуюць. Каб не ўскладняць праблему, хтосьці з адказных чыноўнікаў даў распараджэньне… Але пра ўсё па парадку.

…Сёлета перад Пасхай грэка-каталіцкім сьвятарам стала вядома, што на Вайсковых могілках у Менску (вул. Казлова) пахаваныя астанкі ўніятаў. І што нібыта пахаваньне адбылося пры ўдзеле праваслаўнага сьвятара. Удакладнілі: астанкі знойдзеныя на месцы царквы Сьвятога Духа.

Як заўсёды ў такіх выпадках, пачалося высьвятленьне дэталяў: што за астанкі, дзе канкрэтна яны пахаваныя, ці ёсьць на магіле які знак?

Магілу, сапраўды, знайшлі. Надпіс на таблічцы, прымацаванай да крыжа, недасьведчанага чалавека можа зьбянтэжыць: адкуль вядома, што астанкі, знойдзеныя пры будаўніцтве дзіцячай філармоніі, сапраўды хрысьціянскія? Напісаць жа, што астанкі знайшлі на месцы царквы Сьвятога Духа, не выпадала. Бо ў недасьведчанага чалавека могуць паўстаць іншыя пытаньні. Чаму астанкі не пакінулі ў спакоі на ранейшым месцы? Што цяпер на тым месцы, дзе была царква?

Высьветлілася, што на Вайсковых могілках пахаваныя ня тыя астанкі, што знойдзены ў разьбітай крыпце на пачатку верасьня 2009 году, а іншыя – знойдзеныя пазьней.

Гэтыя знаходкі не афішаваліся, утойваліся ад грамадзкасьці, грэка-каталіцкага духавенства і, наколькі можна меркаваць, ад археолагаў.

Як гэта назваць: сьвятакрадзтва, блюзьнерства?

Не зусім, кажуць у грэка-каталіцкіх колах. І нават адзначаюць пэўны прагрэс. За савецкім часам астанкі разам з пяском і друзам вывозілі ў кар'еры і на звалкі, а цяпер іх, няхай і таемна ад уніятаў, пахавалі на могілках, і, што немалаважна, з удзелам сьвятара. (Мяркуючы па тым, дзе пастаўлены надмагільны крыж, можна зрабіць выснову, што на пахаваньне прыходзіў праваслаўны сьвятар найноўшай фармацыі.)

Менскія грэка-каталікі спадзяюцца даведацца, хто даў каманду ўтойваць знаходкі на месцы царквы Сьвятога Духа і хто распарадзіўся таемна пахаваць гэтыя астанкі на Вайсковых могілках.

…10 красавіка Апостальскі Візітатар для грэка-каталікоў Беларусі архімандрыт Сяргей (Гаек) адслужыў на магіле з нованазнойдзенымі астанкамі менскіх уніятаў паніхіду.

Можна быць упэўненым, што магіла на Вайсковых могілках будзе належным чынам дагледжана. Але гэта не здымае пытаньня: што будзе з астанкамі, знойдзенымі ў верасьні мінулага году?

**Рыгор АПАЦЁНАК**

*"Наша Ніва"*

---

Другога Ватыканскага Сабора Каталіцкая Царква абрала курс згодніцтва і кампрамісу з гэтым сьветам. У сваёй дзейнасьці папа Бенядыкт XVI разбурае такі погляд. З аднаго боку ён зьяўляецца адкрытым і паважлівым да сьвету, а з іншага боку з евангельскай сумленнасьцю заяўляе пра царкоўную пазіцыю, якая не заўсёды згодная з зямнымі каштоўнасьцямі. Вялікія сімпатыі выклікае падыход папы да стасункаў з прадстаўнікамі секулярнай сьвядомасьці. Пасьля адмены выступу ў рымскім універсітэце *La Sapienza* стала відавочна, што культура дыялогу, якую прапануе папа, базуецца на праўдзівай увазе і пашане да пазіцыі іншага, у параўнаньні з тым, што прапаведуе секулярысцкі сьвет. Праз пэўны час пазьней, зьвяртаючыся да моладзі ў сувязі з гэтым інцыдэнтам, папа заклікаў маладое пакаленьне "заўсёды паважаць меркаваньне іншых і шукаць у духу свабоды і адказнасьці праўду і дабро".

Вялікую падтрымку сярод праваслаўных выклікаюць намаганьні папы для захаваньня хрысьціянскай ідэнтычнасьці заходняга сьвету. Так, у прамове ў адказ прэзідэнту Аўстрыі Хайнцу Фішару, папа заклікаў: "Не дазволіць, каб аднойчы ў гэтай краіне пра хрысьціянства казалі адныя толькі камяні!" Ідэі пра адказную эканоміку, які былі выказаны ў пасланьні *"Caritas in veritate"* – "Міласэрнасьць у праўдзе" супадаюць з тымі разважаньнямі, якія на працягу апошніх гадоў фармаваліся ў Маскоўскім Патрыярхаце, у прыватнасьці, пры стварэньні "Збору маральных прынцыпаў і правілаў у гаспадараньні", які быў прыняты ў 2005 годзе. Папа ня раз выказваўся ў падтрымку паўнавартаснага разьвіцьця асобы, падтрымкі традыцыйнай сям'і, захаваньня жыцьця ад зачацьця да сьмерці, супраць прапаганды аднаполых сувязяў. Наогул, ягонае разуменьне чалавечай асобы блізкае да ідэяў, выказаных у "Асновах навучаньня Расейскай Царквы пра годнасьць, свабоду і правы чалавека". Увогуле тыя, хто сочыць за выступамі і дзейнасьцю цяперашняга папы, ня могуць не прызнаць яго мужнага служэньня. Усе абвінавачваньні СМІ на яго адрас будуюцца ці на выхапленых з кантэксту фразах ці на падробленай інфармацыі.

Пры папе Бенядыкту XVI асабліва відавочнай стала блізкасьць пазіцыяў праваслаўных і каталікоў у пытаньнях рэалізацыі хрысьціянскіх нормаў у сучасным грамадзкім жыцьці. Здаецца, гэтая сітуацыя, на жаль, не выкарыстоўваецца для стварэньня сумесных механізмаў узьдзеяньня на грамадзкую сітуацыю ня толькі ў Еўропе, але і ў іншых краінах сьвету, а таксама для дыялогу з міжнароднымі арганізацыямі. Мяркую, што нам неабходна сур'ёзна задумацца пра стварэньне такіх механізмаў.

Як я паспрабаваў паказаць, курс папы Бенядыкта XVI накіраваны на разьвіцьцё сістэмных адносінаў праваслаўных і каталікоў. На маю думку, толькі рэальная і інтэнсіўная праца для адкрытага абмеркаваньня ўсіх багаслоўскіх пытаньняў, якія нас разьдзяляюць, і адначасова назапашваньне досьведу сумеснага сьведчаньня пра хрысьціянскія ісьціны ў секулярызаваным грамадзтве, дапаможа нам, калі дасьць Бог, зрабіць крокі да сапраўднай еднасьці на аснове досьведу жыцьця Царквы ў першым тысячагоддзі.

*Пераклад з расейскай*
***І.БАРАНОЎСКАГА***

*7. Сьвятая справа аднаўленьня еднасьці хрысьціянаў. Яшчэ столькі належыць зрабіць. Прамова на аўдыенцыі з паломнікамі напярэдадні Тыдня малітваў за еднасьць хрысьціянаў, 18 студзеня 2006.*

# II Экуменічны форум “Кірхентаг” – Дзень Царквы ў Мюнхене

***12-16 траўня 2010 году ў баварскім Мюнхене праходзіў II Экуменічны форум “Кірхентаг” – вялікі хрысьціянскі фэст, які сумесна арганізавалі прадстаўнікі розных канфесіяў Нямеччыны, гасьцямі на якім былі хрысьціяне з 91 краіны сьвету, у тым ліку і з Беларусі.***

“Kirchentag”, ці ў перакладзе з нямецкай – “Дзень Царквы”, ад 1949 году раз на два гады пачалі праводзіць у розных вялікіх гарадах Нямеччыны лютэране. Падобныя хрысьціянскія фэсты ладзяць цяпер таксама і нямецкія каталікі. А ў 2003 годзе ў Берліне “Кірхентаг” упершыню меў экуменічны характар – каталікі і пратэстанты розных дэнамінацыяў вырашылі аб'яднаць намаганьні і зладзілі яго разам. Асноваю для такога супрацоўніцтва яны назвалі Біблію і веру ў Трыадзінага Бога, жаданьне сьведчыць пра сваю веру і быць адкрытымі на іншых, нягледзячы на ўсе іх адрозьненьні. Лагатыпам “Кірхентагу” стаў ерусалімскі крыж – роўнаканцовы крыж, у кожны з бакоў якога ўпісаны чатыры малыя крыжы. Сёлета да арганізацыі II “Кірхентагу” далучыліся праваслаўныя розных юрысдыкцыяў, былі на ім таксама і каталікі ўсходняга абраду. Таксама ўпершыню сёлета ў якасьці гасьцей на экуменічны форум былі запрошаныя прадастаўнікі габрэйскай супольнасьці і мусульмане, якія актыўна ўдзельнічалі ў дыскусіях. Адным з асноўных дакладчыкаў на II Сусьветным “Кірхентагу” ў Мюнхене быў Генеральны сакратар Сусьветнай Рады Цэркваў вялебны д-р Олаф Фюксэ Твэйт – вядомы нарвежскі багаслоў-экуменіст.



На працягу пяці дзён “Кірхентагу” ў Мюнхене адбылося больш за 3000 самых розных акцыяў і мерапрыемстваў для самых розных груп і катэгорыяў вернікаў. Гэта – штодзённыя набажэнствы ў храмах розных канфесіяў, сумесныя малітвы, медытацыі, праслаўленьні і разважаньні над Біблiяй, навуковыя канферэнцыі, “круглыя сталы”, публічныя дыскусіі, сустрэчы з вядомымі багасловамі, навукоўцамі, палітыкамі, бізнэсоўцамі, дзеячамі культуры, а таксама мастацкія выставы, прэзентацыі, тэатральныя пастаноўкі, шматлюдныя канцэрты з удзелам поп- і рок-музыкаў. Асноўнымі тэмамі для абмеркаваньня на сёлетнім форуме, які праводзіўся пад дэвізам “Каб вы мелі веру і надзею” *(пар. 1 Пт 1, 21)*, сталі маральныя асьпекты эканамічнага і фінансавага крызісу, хрысьціянская салідарнасьць і адказнасьць, новая евангелізацыя, праблемы экуменізму, міжканфесійны дыялог і дыялог з іншымі рэлігіямі. Не аднойчы ў дыскусіях закраналіся таксама балючыя праблемы для хрысьціянства, выкліканыя выпадкамі педафіліі ў Рыма-Каталіцкай Царкве, і скандальны розгалас вакол іх.



Па падліках арганізатараў у экуменічным “Кірхентагу” ў Мюнхене стала ўдзельнічалі каля 130 тысячаў чалавек, а усяго на розных мерапрыемствах гэтага экуменічнага форуму ў сталіцы Баварыі пабывалі каля паўмільёна чалавек. Каля 6 тысячаў удзельнікаў былі на начным малітоўным чуваньні са сьвечкамі, арганізаваным супольнасьцю Тэзэ 14 траўня. Сярод яго ўдзельнікаў была і федэральны канцлер Нямеччыны Ангела Меркель. Сустрэчы па вывучэньні Бібліі наведалі больш за 23 500 чалавек. Дзесяткі тысячаў людзей прыходзілі на розныя канцэрты.

Цэнтрам “Кірхентагу” сталі набажэнствы 13 траўня, на сьвята Ўзьнясеньня Гасподняга, якія адбываліся ў храмах розных канфесіяў Мюнхена. Пасьля заканчэньня набажэстваў каталікі, праваслаўныя і пратэстанты са сваіх храмаў урачыстымі працэсіямі прыйшлі на Адэонспляц, дзе працягвалася экуменічнае малітоўнае сьвяткаваньне. На яго сабралося каля 10 тысячаў чалавек, у тым ліку абодва прэзідэнты Экуменічнага форуму – старшыня Цэнтральнага камітэту нямецкіх каталікоў (арганізатар фэсту з каталіцкага боку), палітык з ХСС Алоіс Глюк і кіраўнік Нямецкага Зьвязу евангелічных Цэркваў (арганізатар з боку пратэстантаў), эксперт па медыцынскай этыцы Экхард Нагель, а таксама зьверхнікі і ярархі хрысьціянскіх Цэркваў Нямеччыны і іншых краінаў.

Удзельнікамі “Кірхентагу” ў Мюнхене былі таксама і каталікі ўсходняга абраду з розных краінаў, высокім прадстаўніком якіх быў мелхіцкі грэка-каталіцкі патрыярх з Дамаску Рыгор III. У Баварыю ён прыляцеў з Лівану 11 траўня і на працягу ўсіх пяці дзён “Кірхентагу” меў сваю ўласную насычаную праграму ўдзелу ў экуменічным форуме ў Мюнхене. Гэта была выдатная магчымасьць сустрэцца з вядомымі багасловамі, падыскутаваць, атрымаць інфармацыю, абмяняцца думкамі, а таксама выказаць погляд каталікаў усходняга абраду на праблемы еднасьці хрысьціянаў.

У чацьвер, 13 траўня, сірыйскі патрыярх Рыгор III саслужыў Архірэйскую сьв. Імшу сьвята Ўзьнясеньня разам з рыма-каталіцкім архібіскупам Райнхардам Марксам у яго катэдры Найсьвяцейшай Багародзіцы ў Мюнхене, пасьля якой была ўрачыстая працэсія да месца цэнтральнага сьвяткаваньня на Адэонсплацы (Odeonsplatz). А 14 траўня ў царкве сьв. Марціна патрыярх Антыёхіі і ўсяго Ўсходу Рыгор III узначаліў візантыйскую Боскую Літургію сьв. Яна Залатавуснага і гаварыў казань падчас яе. Разам з ім саслужыў прафесар, д-р а. Міхаэль Шнайдэр, SJ з Франкфурту-на-Майне. Падчас набажэнства, якое адбывалася па-нямецку, сьпяваў хор Вышэйшай школы філасофіі і тэалогіі імя сьв. Юрыя з Франкфурту-на-Майне.







У суботу, 15 траўня сірыйскі патрыярх браў удзел у тэматычным блоку “Вывучэньне Біблії”. Падчас яе патрыярх Рыгор III вёў дыскусію з евангелічным біскупам Баварыі Ёганэсам Фрыдрыхам. Таксама ў гэты дзень разам з а. М.Шнайдэрам, SJ ён адслужыў Вячэрню ў візантыйскм абрадзе, якая правілася на розных мовах у суправаджэньні хору з Франкфурта-на-Майне. Грэка-каталіцкія набажэнствы на “Кірхентагу” правіліся таксама ва ўкраінскім храме сьв. Андрэя.

Падчас “Кірхентагу” 15 траўня была адслужана агульнаправаслаўная сьв. Літургія ў мюнхенскім катэдральным саборы Новамучанікаў і вызнаўцаў расейскіх, які належыць РПЦЗ МП. Цікава, што архіяпіскап Марк (Арндт) з Германскай япархіі гэтай Царквы, які прапанаваў сабор для малітвы праваслаўных розных юрысдыкцыяў, раней выступаў з цьвёрдай крытыкай экуменізму, удзельнічаў у прыняцьці анафемы на гэтае вучэньне на Саборы РПЦЗ у 1983 годзе, аднак пасьля свайго далучэньня да Маскоўскай патрыярхіі значна зьмякчыў пазіцыю.



Сьв. Літургію ўзначаліў грэцкі мітрапаліт Аўгустын, якому саслужылі расейскі і румынскі ярархі – мітрапаліт Серафім (Румынскі патрыярхат) і архіяпіскап Берлінскі і Германскі Феафан (Маскоўскі патрыярхат), сьвятары Расейскай, Эладзкай, Баўгарскай і Сербскай Цэркваў. Сьпевы падчас багаслужбы выконвалі хоры расейскай, баўгарскай і румынскай праваслаўных супольнасьцяў Мюнхена. Праваслаўныя прадстаўнікі ў рамках форума правялі прэзентацыю сваіх кніг і абразоў, прачыталі лекцыі.

Вельмі адметнай і запамінальнай падзеяй для многіх удзельнікаў стала ўсходняя Вячэрня з брацкай агапай з ламаньнем хлеба, у якой удзельнічалі каля 20 тысячаў чалавек. Арганізатары “Кірхентага” шукалі магчымасьць паказаць еднасьць хрысьціянаў розных канфесіяў на практыцы, бо зьдзяйсьненьне сумеснай Эўхарыстыі недапушчальна з пункту гледжаньня канонаў некаторых хрысьціянскіх канфесіяў. І калі праваслаўныя прапанавалі адслужыць Вячэрню з артаклазіяй (блаславеньнем хлябоў і наступным сумесным ламаньнем хлеба), гэтая ідэя была падтрымана, бо аказалася вельмі дарэчнай малітоўнай формай праяўленьня братэрства ўсіх хрысьціянаў.

Арганізатары мерапрыемства разьлічвалі на 10 тыс. удзельнікаў. Аднак увечары, 14 траўня, на пляцы Мюнхена, нягледзячы на дажджлівае надвор’е, на яго сабралася каля 20 тыс. чалавек. Вячэрню ўзначальваў архіяпіскап Германскі Аўгустын (Канстанцінопальскі патрыярхат) у саслужэньні архім. Эмануэля Сфіяткаса (Берлін), архім. Петэра Клітча, прот. Мірчы Басараба і а. Тамаза Ламідзэ (Мюнхен). На вячэрні сьпявалі візантыйскі хор Грэцкай кансерваторыі, хор Расейскай Праваслаўнай Царквы Маскоўскага патрыярхату, хор сербскай праваслаўнай царквы сьв. Яна Ўладзіміра, румынскі хор царквы сьв. Андрэя, а таксама хор копцкай праваслаўнай супольнасьці (усе – з Мюнхена). Прадстаўнікі традыцыйных для Нямеччыны каталіцкай і лютэранскай канфесіі з цікавасьцю слухалі нязвыклы для іх вуха ўсходні харавы сьпеў, малітвы і чытаньне псальмаў. Сярод удзельнікаў сьвяточнага мерапрыемства былі архібіскуп Райнхард Маркс, зьверхнік каталіцкай архідыяцэзіі Мюнхена, евангелічны біскуп Баварыі Ёганэс Фрыдрых і іншыя ярархі.

Па завяршэньні Вячэрні мітрапаліт Канстанцінопальскага патрыярхату архіяпіскап Германскі Аўгустын блаславіў 1000 хлябоў, якія сьпяклі ў адной з пякарняў Мюнхена. Перад пачаткам брацкай агапы для кожнага з мноства сталоў, расстаўленых на пляцы, быў прызначаны сьпецыяльна падрыхтаваны валанцёр, у абавязкі якога ўваходзіла распачаць сумесную малітву. Пасьля яе ўсе ўдзельнікі мелі сумесную трапезу з асьвячоным падчас ліціі хлебам, алеем, яблыкамі і пітвом (вада і віно). Вялікія боханы хлеба валанцёры ў кошыках разносілі паміж сталамі, а ўдзельнікі ламалі яго на кавалкі і дзяліліся паміж сабой, як першыя хрысьціяне.

“Гэта было найвышэйшай кропкай экуменічнага Кірхентагу. Тут еднасьць хрысьціянаў стала вельмі рэалістычнай”, – лічыць пратэстанцкі пастар Марцін Грыз. Пасьля візантыйскай Вячэрні з артаклазіяй многія адзначалі, што сёньня, калі пакуль яшчэ немагчыма сумесная Эўхарыстыя, вопыт правядзеньня падобных брацкіх агапаў з ламаньнем хлеба для хрысьціянаў з розных канфесіяў падаецца вельмі каштоўным. Гэта як бачны знак глыбокага прагненьня еднасьці хрысьціянаў.

Протаярэй Канстанцін Мірон, адзін з арганізатараў “Кірхентага” ад Праваслаўнай Царквы ў Нямеччыне, у інтэрв’ю *Badishe-zietung* заявіў: “Што непакоіць мяне, дык гэта балбатня, быццам экуменічны рух увайшоў у ступар. Экуменічны рух жывы, ён знаходзіцца ў прагрэсе, і найлепшы гэтаму доказ – гэты Кірхентаг”.



“Для мяне няма ніякай альтэрнатывы экуменізму”, – сказаў рыма-каталіцкі архібіскуп Фрайбурга Роберт Золіч, старшыня Канферэнцыі нямецкіх біскупаў. Таксама ён заўважыў, што экуменічны рух не памёр і не затрымаўся ў нейкім ледавіковым перыядзе насуперак назіраньням многіх каментатараў. Каталіцкі ярарх адзначыў, што ён паехаў дамоў з Мюнхену з адчуваньнем сьвежасьці і надзеі ў Царкве.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

*Паводле oekt.de, evangelisch.de, churchby.info, byzcath.org*

# Сьвята іконы Маці Божай Жыровіцкай

***Вернікі Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы і івацэвіцкай парафіі Маці Божай Жыровіцкай урачыстымі набажэнствамі ў Слоніме і Івацэвічах адзначылі сьвята гэтай вельмі шанаванай хрысьціянамі ў Беларусі цудатворнай іконы, якое ў царкоўным календары католікаў абодвух абрадаў прыпадае ў Велікодны перыяд – на 7 траўня паводле новага стылю.***



Як падкрэсьліў у сваім сёлетнім велікодным Пастырскім слове Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі архім. Сяргей Гаек, паводле візантыйскай літургічнай традыцыі нашай Царквы, у пасхальнай радасьці Вялікадня мы ўзьвялічваем і Найсьвятую Багародзіцу, якой Анёл прынёс вестку пра Ўваскрасеньне Яе Сына. “Анёл усклікнуў Поўнай ласкі: Чыстая Дзева, радуйся! І зноў кажу: Радуйся, бо Твой Сын уваскрос на трэці дзень з магілы... Людзі, весяліцеся!” Таму ў гэты пасхальны час, адзначыў архім. Сяргей, з асаблівай радасьцю ўшаноўваем Жыровіцкую Заступніцу – “Маці Еднасьці”, цудадзейная ікона Якой была каранаваная папскімі каронамі 280 гадоў таму – 19 верасьня 1730 году.

“Няхай час юбілейных сьвяткаваньняў будзе для нас усіх нагодай да руплівай малітвы за наш народ, за захаваньне ды пашырэньне ў яго жыцьці хрысьціянскіх каштоўнасьцяў”, – заклікаў вернікаў архім. Сяргей Гаек у сваім пасланьні. – Такая малітва няхай дапаможа нам увайсьці ў глыбіню праўды пра “Сулучнасьць сьвятых”, якой ёсьць Паўсюдная Хрыстовая Царква ў яе вымярэньні як гістарычным, так і геаграфічным. Тады зможам лепш зразумець каштоўнасьць нашай духовай спадчыны, якую подзьвігам нашага хрысьціянскага жыцьця маем працягваць сёньня ў нашай Бацькаўшчыне”.

Сьвята Жыровіцкай іконы Маці Божай пачалося 6 траўня ў Слоніме, у касьцёле сьвятога апостала Андрэя, разам з братамі рыма-католікамі. Сёньня ў гэтым храме захоўваецца копія рымскага цудатворнага абраза Маці Божай Жыровіцкай, падораная сваім суайчыньнікам манахамі-базыльянамі з Рыму. Гэты абраз быў сьпецыяльна напісаны імі для ўрачыстасьці каранацыі, якая адбывалася 280 гадоў таму ва ўніяцкім манастыры ў Жыровічах.

У слонімскім касьцёле сьв. Андрэя для вернікаў івацэвіцкай грэка-каталіцкай парафіі быў урачыста асьвячаны абраз-копія гэтай цудатворнай Жыровіцкай іконы Маці Божай. Візантыйскую літургію ў касьцёле ўзначальваў рыма-каталіцкі біскуп Антон Дыдыч, OFMCap з Драгічына (Польшча), дзе вучацца семінарысты БГКЦ. Разам з ім саслужылі Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек і ўсе беларускія грэка-каталіцкія сьвятары. На ўрачыстасьцях у Слоніме, акрамя мясцовых грэка-католікаў, прысутнічалі таксама групы вернікаў з грэка-каталіцкіх парафіяў у Баранавічах, Івацэвічах і Менску.

У Івацэвічах сьвяточная багаслужба адбылася на наступны дзень, 7 траўня. Узначаліў яе Апостальскі Візітатар архімандрыт Сяргей Гаек.

Да гэтай парафіяльнай урачыстасьці ў капліцу душпастырскага цэнтру івацэвіцкай парафіі была дастаўлена новая копія Жыровіцкага цудатворнага абраза, асьвячанага ў Слоніме. Падчас сьвята адбылася таксама прэзентацыя дыска з запісам Акафіста перад Жыровіцкай іконай Маці Божай. Яго запісаў грэка-каталіцкі хор “Прасфара” з Менску.

8 траўня беларускія грэка-каталіцкія сьвятары разам з Апостальскім Візітатарам архім. Сяргеем (Гаекам) зноў маліліся ў Слоніме ля цудатворнай Жыровіцкай іконы Маці Божай у касьцёле сьвятога апостала Андрэя. У гэты дзень біскуп Драгічынскі Антон Дыдыч, OFMCap (Польшча) праз ускладаньне рук перадаў сьв. Тайну сьвятарства рыма-каталіцкаму дыякану Віталю Бандаронку з манаскай супольнасьці Ордэну Меншых Братоў Капуцынаў. На пачатку гэтай урачыстай падзеі менскі грэка-каталіцкі хор “Прасфара” сьпяваў Акафіст да Маці Божай Жыровіцкай. Сьпеў гэтага хору таксама ўпрыгожваў і набажэнствы.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**





*Фота Паўла Дайліда.*

# Адданыя Царкве і Бацькаўшчыне

***9 сакавіка 2010 году на 95-ым годзе жыцьця памёр у Чыкага (США) доктар Вітаўт Рамук. А ўсяго праз два месяцы, пасьля нядоўгай хваробы, адыйшла да Госпада і яго жонка. Вера Рамук памерла 5 траўня. Сёлета ёй споўнілася б 80. Яны былі сярод заснавальнікаў і актыўных вернікаў беларускай грэка-каталіцкай парафіі Хрыста Збаўцы ў Чыкага, якая існавала там да 2002 году.***

Вера і Вітаўт Рамукі пражылі разам 52 гады. Яны вызначаліся сярод суайчыньнікаў у Амерыцы сваёй актыўнай грамадзянскай пазіцыяй, ахвярнасьцю, шчырай любоўю да Бога і Бацькаўшчыны. Гэтая сям'я жыва цікавілася адраджэньнем БГКЦ у Беларусі. На працягу многіх гадоў Вера і Вітаўт Рамук зьяўляліся падпісчыкамі і



неабыякавымі чытачамі газеты "Царква" падтрымлівалі яе ахвяраваньнямі, а таксама перадалі ў архіў Рэдакцыі некаторыя фотаздымкі.

Вітаўт Рамук нарадзіўся 15 ліпеня 1914 году ў Екацярынаславе (тады гэта была яшчэ царская Расея, а сёньня Днепрапятроўск, Украіна). Ягоныя бацькі былі там у гастарбайтэрах. У 1922 годзе сям'я вярнулася на радзіму, пасяліўшыся ў Ліпнішках каля Ліды. У 1926-1930 гг. Вітаўт Рамук навучаўся ў Віленскай беларускай гімназіі. Пасьля яе В.Рамук перавёўся ў польскую гімназію ў Пінску. Тады ён сур'ёзна разважаў, ці ня стаць сьвятаром. Але ўрэшце адмовіўся ад гэтага і паступіў на біялагічны факультэт Віленскага ўнівэрсітэту імя Стэфана Баторыя. Праз год ён перавёўся на медыцыну, а яшчэ праз год Вільню занялі саветы і ўнівэрсітэт быў зачыны. У часы акупацыі працаваў перакладчыкам у Лідзкай гарадзкой управе, а пасьля вайны Вітаўт Рамук апынуўся ў Мюнхене, дзе паспрабаваў працягнуць навучаньне медыцыне.

Мару ўдалося ажыцьцявіць у Лювенскім каталіцкім універсітэце ў Бельгіі. У Лювене Вітаўт Рамук браў актыўны ўдзел у беларускім грамадзкім жыцьці і нават некаторы час кіраваў беларускай студэнцкай грамадой, а таксама ўдзельнічаваў у зьездах міжнароднай студэнцкай каталіцкай арганізацыі *Pax Romano*. Некаторы час ён працаваў у дзіцячым прытулку ў Брусэлі. У 1954 годзе Вітаўт Рамук стаў сябрам камітэту, які набыў Марыян Гаўз як сталае памяшканьне для Беларускай каталіцкай місіі ў Англіі. Перабраўшыся ў Амерыку, Вітаўт Рамук працаваў у Цэнтры педыятрыі, а затым у Дзіцячым цэнтры ў Чыкага і выйшаў на пенсію толькі ў 74 гады.

Вера Рамук нарадзілася 6 верасьня 1931 гады ў вёсцы Сабары Докшыцкага раёну Віцебскай вобласьці ва ўніяцкай сям'і Стэфана Жызьнеўскага і Еўдакіі Гапанёнак. Перад самай вайной сям'я ўжо была ў сьпісах для высылкі ў Сібір, але пачалася вайна. Пераҗылі акупацыю, а ў 1944 годзе выехалі ў Нямеччыну, а потым у ЗША.

Спачатку Жызьнеўскія жылі ў мястэчку Пеорыя (штат Ілінойс), дзе Вера ў 1954 годзе скончыла факультэт вольных навук ва ўнівэрсітэце Брэдлі. Яна актыўна ўдзельнічала ў студэнцкім жыцьці, распавядала пра Беларусь і яе народ, арганізавала жаночы ансамбль беларускага танца. Пазнаёмілася там з доктарам Вітаўтам Рамуком, а ў 1958 годзе яны пажаніліся. З 1963 году Вера і Вітаўт Рамукі жылі ў Чыкага, дзе вялі актыўную дзейнасьць па аб'яднаньні выхадцаў з Беларусі. Рамукі ўзначалілі там Беларускі каардынацыйны камітэт, які праводзіў шэраг акцый беларусаў, што гуртаваліся вакол грэка-каталіцкай парафіі Хрыста Збаўцы і праваслаўнай царквы Сьвятога Юрыя. Сваёй адкрытасьцю, шчырасьцю і няспынная дзейнасьцю Вера Рамук аб'ядноўвала шмат каго з тых, хто не забыўся пра свае карані.

Яна пісала вершы, была ініцыятарам сустрэч з прэзідэнтамі, палітыкамі і грамадзкімі дзеячамі ЗША, зьвяртала іх увагу на палітычнае становішча ў Беларусі, на стаўленьне ўлад да культурнай спадчыны, на надзеі беларусаў быць вольнымі і незалежнымі. У 1974 годзе вітала ў Чыкага Марка Шагала на адкрыцьці ў горадзе яго мазаікі "Поры году", арганізоўвала экспазіцыі прац мастакоў і канцэрты музыкаў з Беларусі, выдавала кнігі беларускай тэматыкі, актыўна ўдзельнічала ў падрыхтоўцы імпрэзаў да 25 сакавіка – Дня Волі. Ад 1978 году штогод Рамукі ладзілі беларускія калядныя праграмы ў Музеі навукі і індустрыі ў Чыкага. Многія адзначалі, што беларуская ялінка, упрыгожаная вырабамі з саломкі, адна з самых прыгожых.

У сям'і Рамукоў было двое дзяцей, ад якіх былі ўнукі. Сын Джон (Янка) зрабіў вялікую кар'еру ў кампаніі "Хітачы", а дачка Ірэна стала педагогам.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

# АДЫЙШОЎ ДА ГОСПАДА айцец Кастусь Маскалік



***20 красавіка ў дамовай царкве Беларускай каталіцкай місіі ў Лондане адбылося разьвітаньне з старэйшым беларускім грэка-каталіцкім сьвятаром айцом Кастусём Маскалікам, які на 92 годзе жыцьця 12 красавіка 2010 году адыйшоў да Госпада. Шмат гадоў ён адпрацаваў у беларускай секцыі Радыё Ватыкан, выконваў сьвятарскае служэньне ў Беларускай каталіцкай місіі ў Лондане. Сёлета, 10 красавіка, споўнілася 55 гадоў яго сьвятарства.***

Кастусь Маскалік нарадзіўся ў сялянскай сям'і Тодара і Ганны (з роду Шыманскіх) 28 траўня 1918 году ў заходнебеларускім мястэчку Гародзеі, сёньня называным Гарадзея, што недалёка ад Нясьвіжу. Ён рана застаўся сіратою: маці памерла, калі яму было ўсяго 8 месяцаў, а ў васьмігадовым узросьце памёр і яго бацька. Апеку і выхаваньне над сіратою ўзялі сваякі.

Кастусь Маскалік скончыў мясцовую сямігодку, потым цягам двух гадоў жыў у Жыровіцкім праваслаўным манастыры. Яшчэ перад вайной гэты вельмі пабожны юнак зацікавіўся грэка-каталіцтвам і некаторы час быў у грэка-каталіцкім манастыры айцоў студытаў у Уніве каля Львова. У траўні 1941 году з роднага Гародзея быў мабілізаваны ў Чырвоную Армію і вывезены ў Расею, але як "ненадзейны" ў хуткім часе апынуўся ў працоўным батальёне.

Як польскі грамадзянін ён здолеў патрапіць у Армію Андэрса, разам з якой праз Іран, Ірак, Палестыну і Ягіпет зрабіў сваеасаблівую пілігрымку ў Сьвятую Зямлю. Урэшце ў 1944 годзе апынуўся ў Італіі. Ён ганарыўся, што праз усю вайну не забіў аніводнага чалавека і не зрабіў аніводнага стрэлу (працаваў пры кухні).

У 1947 годзе Кастусь Маскалік паступіў у калегію Русікум у Рыме, дзе праходзіў сваю сьвятарскую фармацыю і навучаньне. 10 красавіка 1955 году ўкраінскі грэка-каталіцкі архібіскуп Іван Бучко ўдзяліў яму сьвятарскія сьвячаньні.

Працяг на с.15 ⇨

а. Пётр РУДКОЎСКІ, OP

# Папа Бенядыкт XVI і крытыка ў яго адрас

***Што значыць стаць Папам Рымскім? Атрымаць уладу? Здабыць славу? Быць радасна вітаным шматсоттысячным натоўпам? Прымаць на аўдыенцыях першых персон наймагутнейшых краінаў сьвету? Зьяўляцца на вокладках шматтыражных газет? Пісаць пасланьні, звароты і дырэктывы мільярднай супольнасьці каталікаў?..***

Многія асацыююць пасаду Папы Рымскага менавіта з гэтым: з уладай, славай, апладысментамі, прэстыжам, папулярнасьцю. Але дастаткова каліва эмпатыі, каб заўважыць і іншы бок "папскага шчасьця". Штодзень і штоночы ты знаходзішся пад пільным позіркам "прыхільных" і "непрыхільных" ватыканістаў, зьлева і справа няспынна б'юць фантаны крытыкі, нярэдка зьедлівай і ачарняльнай, а атэістычныя зілоты, кшталту Доўкінса ці Гітчэнса, нястомна працуюць над тваім іміджам як кіраўніка "цемрашальскай" і нават "злачыннай" арганізацыі. Прыемна?

Але гэта яшчэ толькі айсберг. У дачыненьні да сёньняшняга Папы таксама ўнутры Царквы паўстала своеасаблівая мода на маніторынг "няўдач і памылак" (рэальных або выдуманых) Бенядыкта XVI.

У гэтым месцы, думаю, варта зрабіць невялікую аўтарэфлексію. Асабіста я заўсёды быў прыхільнікам крытычнай дыскусіі ў Царкве і праціўнікам абагаўленьня якога-небудзь чалавека, нават Папы Рымскага. Чытачы маёй рубрыкі на *Catholic.by,* магчыма, памятаюць мой умерана-крытычны допіс на тэму помнікаў Яну Паўлу II. Прызнацца, я ніколі не адчуваў сябе добра ў ролі "апалагета" ці "змагара за рэпутацыю" каталіцкіх ярархаў. Заўсёды лічыў і надалей лічу, што можна, і нават трэба, уздымаць цяжкія пытаньні, называць рэальныя праблемы і – пры ўмове захаваньня належнай павагі – стасаваць "братэрскі напамін" у дачыненьні да пастыраў Царквы.

Што ж, такім чынам, цяпер прымушае мяне выступіць менавіта ў ролі "апалагета" ў адносінах да папы Бенядыкта XVI? Узровень крытыкі многіх яго апанентаў – вось што бянтэжыць і прымушае выступіць у абарону Пантыфіка. Некалькі дзён таму ў мае рукі трапіў ліст "да біскупаў" вядомага каталіцкага тэолага-дысідэнта і сьвятара прафесара Ганса Кюнга (колішні калега кардынала Рацынгера) з нагоды пяцігоддзя Пантыфікату Бенядыкта XVI. На чатырох старонках бітага тэксту знаходзім толькі і выключна абвінавачваньні, прэтэнзіі і асуджэньні адносна таго, што зрабіў (або чаго не зрабіў) сёньняшні Папа. Вось пара вытрымак: "змарнаваны шанец збліжэньня з пратэстанцкімі Цэрквамі, (...) змарнавана магчымасьць трывалага паяднаньня з габрэямі, (...) Папа без усялякіх уступных умоваў прыняў у Царкву традыцыяналістаў з Брацтва імя сьв. Пія X, (...) прасоўвае любымі спосабамі сярэднявечную трыдэнцкую Імшу, (...) актыўна ўзмацняе антысаборныя сілы, мянуючы рэакцыйных чыноўнікаў на ключавыя пасады ў Курыі, (...) усё больш і больш аддзяляецца ад значнай большасьці членаў Царквы...". Вось яно як: папа "аддзяляецца".

Разгорнуты аналіз усіх нападкаў, сфармуляваных прафесарам Кюнгам, патрабаваў бы напісаньня ёмістага артыкула. Аднак я абмяжуюся каментарыем толькі да двух абвінавачваньняў, якія, напэўна, найчасьцей сустракаюцца як у Царкве, так і па-за яе межамі: 1) чаму Папа прыняў ва ўлоньне Царквы адлучаных каталікаў з Брацтва сьв. Пія X? і 2) чаму "недастаткова рашуча" змагаўся (-ецца) з педафіліяй у сьвятарскіх шэрагах?

1. Паяднаньне з "традыцыяналістамі". Крытыкі адносна гэтага кроку я не разумею. А менавіта: не магу зразумець, куды падзеліся лозунгі "больш разнастайнасьці" і "больш плюралізму", з якімі заўсёды насіліся лібералы-прагрэсісты а-ля Кюнг? А можа, гэта "ня той плюралізм", "ня тая разнастайнасьць"? Дыялог з пратэстантамі – так, а з каталіцкімі традыцыяналістамі – не. Удзел у мусульманскіх маленьнях – выдатна, а дазвол адпраўляць Імшу паводле трыдэнцкага абраду – ганьба. Сімпозіюм з удзелам атэістаў – выдатная ідэя! А з удзелам кансерватыўных каталікаў – непрымальна.

Дагэтуль ніхто з тых, хто крытыкуе Бенядыкта XVI, так і ня даў мне зразумелага тлумачэньня, чаму, адкрываючыся на пратэстантаў, мы мусім закрывацца на каталіцкіх традыцыяналістаў, чаму, ведучы дыялог з мусульманамі або будыстамі, мы павінны пагарджаць лефэўрыстамі, чаму, адкрываючы духоўную вартасьць мусульманскага або габрэйскага культаў, мы павінны выключыць вартасьць трыдэнцкай Імшы?

2. Пазіцыя Папы адносна педафіліі ў Царкве. Вось ужо каторы год многія каталікі і тыя, хто сімпатызуе каталіцызму, знаходзяцца ў разгубленасьці: у чым сакрэт "рыма-каталіцкай педафіліі"? Якім чынам Царква, такая строгая ў пытаньнях сэксуальнай этыкі, стала ледзь не манапалістам сэксуальных дэвіяцый?

Паспрабую раскрыць гэты "сакрэт", указваючы на тры "мінісакрэты".

Першы "міні-сакрэт": да нядаўняга часу ўлады Царквы былі перакананыя, што перамагчы педафілію і іншыя сэксуальныя злоўжываньні яны змогуць уласнымі сіламі. Пры гэтым трэба заўважыць, што – насуперак інсінуацыям каталіцкіх і некаталіцкіх дэмаскатараў – гэтая барацьба была даволі рашучай, настолькі, наколькі дазвалялі "ўнутрыцаркоўныя рэсурсы". Узгадаем, што ўжо з часоў Бенядыкта XIV (XVIII ст.) кожны вернік быў "у сумленьні абавязаны" паведаміць вышэйшым царкоўным органам пра факт сэксуальнага дамагальніцтва з боку духоўнай асобы, асабліва калі нешта такое адбывалася падчас споведзі. Выдадзеная ў 1962 годзе інструкцыя *Crimen sollicitationis* прадпісвала працэдуры дзеяньняў, якія вышэйшыя духоўныя ўлады павінны прадпрыняць у выпадку атрыманьня скаргі на сьвятара. У залежнасьці ад цяжару правіны прадугледжваліся розныя пакараньні, у тым ліку пазбаўленьне сьвятарскага сану.

Кароткі каментар: думаю, ня так цяжка зразумець, чаму Царква імкнулася ўласнымі сіламі, без заахвочваньня сьвецкіх уладаў, змагацца з праблемамі сэксуальнага характару сярод духавенства. Гледзячы з перспектывы часу, можам сказаць, што гэта было ёй не пад сілу, бо, па-першае, унутрыцаркоўныя рычагі ўзьдзеяньня ўсё ж такі вельмі абмежаваныя, асабліва ў плане пеналізацыі злачынства, а па-другое, ня кожны біскуп быў схільны ўсур'ёз трактаваць тыя ці іншыя абвінавачваньні і задзейнічаць усе наяўныя ў яго сродкі для прадухіленьня злачынстваў і належнага пакараньня вінаватых. Таму, у найгоршым выпадку, можам казаць пра наіўнасьць царкоўных уладаў, хоць і гэта не відавочна, бо гэта цяпер мы ўсе "не-наіўныя", аднак яшчэ трыццаць-сорак гадоў таму людзі не валодалі дастатковымі ведамі пра ўстойлівасьць і дынаміку дэвіяцыйных схільнасьцяў.

Другі міні-сакрэт: Царква заўжды верыла ў апраўданасьць і дзейснасьць т. зв. *poena medicinalis* ("лячэбнае пакараньне"). Гэта значыць, зыходзіла з прынцыпу, што пакараньне павінна быць сродкам, а ня мэтай. За такім падыходам стаіць вера ў тое, што чалавек па сваёй прыродзе добры і што яму заўжды трэба даваць шанец для навяртаньня і рэабілітацыі ў вачах супольнасьці. Гэты прынцып прымяняўся таксама да сьвятароў, за якімі былі заўважаны правіны сэксуальнага характару. І зноў жа: з перспектывы часу, валодаючы даволі сучаснымі псіхалагічнымі ведамі і навучаныя горкім вопытам, мы можам казаць, што, на жаль, у дачыненьні да многіх сэксуальных дэвіянтаў царкоўная *poena medicinalis* была недастатковай. Аказалася, што патрэбны такія тэрапеўтычныя або/і карныя захады, якія выходзяць па-за кампетэнцыі і рэсурсы ўлады Царквы.

Трэці міні-сакрэт: мас-медыя пасьпяхова спладзілі стэрэатып Царквы як "гнязда педафіліі", перш за ўсё дзякуючы спрашчэньням у апісаньні фактаў і стасаваньні рыторыкі падазрэньняў. Цікавыя ў гэтым плане назіраньні прафесара Філіпа Джэнкінса *(Penn State University)*, шматгадовага дасьледчыка праблемы сэксуальных злоўжываньняў у Рыма-Каталіцкай Царкве. Ён апавядае, што, напрыклад, у Чыкагскай архідыяцэзіі ў выніку адмысловых дасьледаваньняў было выкрыта, што сярод 2 тысяч 200 сьвятароў адносна 40 маюцца сур'ёзныя падазрэньні ў сэксуальным выкарыстаньні малалетніх. Гэта – ні многа, ні мала – 1,8%. Але ўвага: з гэтых 40 толькі адзін сьвятар мог быць кваліфікаваны як "педафіл", паколькі астатнія мелі сэксуальныя кантакты з асобамі ва ўзросьце 16-17 і больш гадоў. "Такія стасункі хутчэй за

# Вядомы хрысьціянскі публіцыст Пётр Рудкоўскі стаў сьвятаром


Фота Сержука Серабро.

***24 чэрвеня 2010 году, у сьвята нараджэньня Яна Хрысьціцеля, у касьцёле сьв. Барбары ў Віцебску прыняў сьвятарскія сьвячаньні Пётр Рудкоўскі – манах з Ордэну братоў прапаведнікаў (дамініканаў). Ён добра вядомы ў беларускім хрысьціянскім і інтэлектуальным асяродку як багаслоў і філосаф, выкладчык і публіцыст. На беларускім каталіцкім партале Catholic.by і ў газеце “Наша ніва” ён вядзе свае аўтарскія рубрыкі, таксама зьяўляецца сталым аўтарам часопісаў “Arche” і “Наша вера”, мае свой блог у Жывым журнале.***

Сьвятую Тайну сьвятарства праз ускладаньне рук дыякану Пятру Рудкоўскаму перадаў рыма-каталіцкі біскуп Віцебскі Уладзіслаў Блін.

Пётр Рудкоўскі нарадзіўся ў 1978 годзе недалёка ад Вільні ў мястэчку Канвелішкі (Гарадзенскай вобласьць). У 2000 годзе ён уступіў у дамініканскі ордэн. Абараніў магістарскую дысертацыю па багаслоўі ў дамініканскім калегіюме ў Кракаве і па філасофіі ў Ягелонскім унівэрсітэце. Займаецца сацыяльнай этыкай і метадалогіяй навук, выкладае логіку і метадалогію ў Еўрапейскім гуманітарным унівэрсітэце ў Вільні. Аўтар кнігі “Паўстаньне Беларусі” (2007 г.).

27 чэрвеня айцец Пётр Рудкоўскі адслужыў сваю першую літургію ў сваіх родных мясьцінах у Канвелішках, што ў Варанаўскім р-не. На гэтую ўрачыстасьць ён запрасіў таксама грэка-каталіцкага сьвятара з Горадні а. Андрэя Крата, якога папрасіў прамовіць казаньне ў гэты дзень.

У інтэрв’ю “Радыё Рацыя” айцец Пётр Рудкоўскі адзначыў, што няпростым быў яго шлях да сьвятарства: “Дарога да сьвятарства пачалася недзе з дзесяці гадоў, ужо 22 гады таму. У 10-13 гадоў гэта было толькі дзіцячае захапленьне, якое павінна было трансфармавацца, прайсьці выпрабаваньні. Пазьней, у 16 гадоў, я бачыў шэраг этычных, а таксама культурных выклікаў у сваім асяроддзі, у беларускім грамадзтве. Вось гэты этычны матыў мяне падштурхнуў паступіць у Гарадзенскую семінарыю. Быў і іншы матыў – інтэлектуальны, бо хацелася вывучаць філасофію, багаслоўе. Пасьля я паступіў у Дамініканскі ордэн. Пасьля заканчэньня філасофска-багаслоўскага калегіюма дамініканцаў зьявілася яшчэ адно выпрабаваньне: я папрасіў адтэрмінаваць сьвятарскія пасьвячаньні, бо зьявіліся пэўныя сумневы, якія я павінен быў разважыць і пераасэнсаваць”.

Пётр Рудкоўскі будзе служыць у касьцёле сьв. Барбары ў Віцебску. Мяркуецца, што працаваць будзе найперш з моладдзю.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

ўсё таксама падлягаюць крымінальнай адказнасьці, – піша праф. Джэнкінс, – і, бясспрэчна, зьяўляюцца амаральнымі і грахоўнымі, але яны ня маюць характару бязьлітаснага, эксплуатацыйнага выкарыстаньня дзяцей”.

Назіраньне амерыканскага эксперта прыведзена тут зусім не для таго, каб апраўдваць сьвятароў, якія дапусьцілі ганебныя ўчынкі. Нават калі сьвятар практыкуе сэкс з дарослымі асобамі і пры ўзаемнай згодзе, гэта непрымальна з маральнага і кананічнага пункту гледжаньня, а тым больш, калі да такіх стасункаў заахвочвае асобаў з яшчэ несфармаванай да канца псіхікай. Назіраньні эксперта прыведзены для таго, каб паказаць механізм стварэньня вобразу Царквы як нейкай фабрыкі педафіліі. Газеты і інтэрнэтрэсурсы часта аздабляюць загалоўкі сваіх артыкулаў пры дапамозе словаў накшталт “ксёндз-педафіл”, хоць пры больш уважлівым прачытаньні высьвятляецца, што гаворка ідзе пра сэкс з асобамі сярэдне- або позьнепадлеткавага ўзросту (а гэта не педафілія, а эфебафілія – зусім іншая псіхіятрычна-крыміналістычная катэгорыя). У сьвядомасьці ж чытачоў (многія абмяжоўваюцца чытаньнем загалоўкаў і падзагалоўкаў) дамінантным застаецца загалоўкавы пасыл, а не “сухія факты” ў тэксьце. Пазьней гэты “медыя-факт” пачынае функцыянаваць як факт аўтэнтычны, затым абагульняецца і прыпісваецца ўсім альбо большасьці з дадзенай супольнасьці. З такім разгулам індукцыйнай сафістыкі ўсё насельніцтва Зямлі трэба было б акрэсьліць “педафільскім”.

Пасьля гэтых канстатацый можам штосьці сказаць наконт “віны” Бенядыкта XVI. Так, гэта праўда, што ў перыяд сваёй бытнасьці архібіскупам Мюнхенскім і Фрайзінгскім, а нават у тыя часы, калі зьяўляўся прэфектам Кангрэгацыі Веравучэньня, Ёзаф Рацынгер быў прыхільнікам “унутрыцаркоўнага” вырашэньня праблемы сэксуальнага выкарыстаньня малалетніх з боку сьвятароў. Памыляўся? Што ж, можам і так сказаць, але варта заўважыць, што ў 70-ыя, а нават 80-ыя гады ня кожны псіхолаг арыентаваўся ў механізмах педафіліі або эфебафіліі, а тым больш тэолаг, хоць і шырока адукаваны.

Аднак жа па меры ўсьведамленьня глыбіні гэтай праблемы і пазнаньня яе маштабаў Рацынгер-Бенядыкт даволі хутка ператварыўся ў аднаго з найбольш рашучых прыхільнікаў “жорсткай пазіцыі” і супрацоўніцтва са сьвецкімі сьледчымі і карнымі органамі. “Панцырны” і “цьвёрды” кансерватар, як яго называюць некаторыя крытыкі, выявіўся ў гэты раз даволі гнуткім, гатовым прызнаць памылковасьць ранейшай тактыкі і адкрытым на распрацоўку карэнна новага падыходу.

Думаю, калі б хтосьці вынайшаў прыладу для вызначэньня ўзроўню “цьвёрдасьці” і “эластычнасьці”, то, магчыма, аказалася б, што папа Бенядыкт XVI зьяўляецца больш эластычным, адкрытым і дыялагічным, чым многія яго крытыкі з-пад прагрэсіўнага брэнду.

*Catholic.by*

## Адыйшоў да Госпада айцец Кастусь Маскалік

⇨ Пачатак на с. 13

Праз паўгады а. Кастусь Маскалік прыехаў у Лондан, дзе служыў у Беларускай каталіцкай місіі.

У 1958 годзе а. Кастусь Маскалік выехаў у Парыж на пасаду кіраўніка Беларускай каталіцкай місіі ў Францыі, аднак у 1962 годзе быў пераведзены ў Рым як памочнік а. Пятра Татарыновіча ў працы на Ватыканскім радыё.

У 1985 годзе айцец Кастусь Маскалік вярнуўся ў Лондан на працу ў Місіі. Ад 2000 году ён жыў доме састарэлых у Лондане. Яго пастаянна адведваў ягоны зямляк з Гарадзеі айцец Аляксандар Надсан, а таксама а. Сяргей Стасевіч.

Адпяваньне памерлага сьвятара і грамадзкае разьвітаньне з ім адбылося 20 красавіка 2010 году ў дамовай капліцы Беларускай каталіцкай місіі. Паніхіду ўзначаліў малады беларускі грэка-каталіцкі сьвятар а. Сяргей Стасевіч, які сказаў таксама казаньне пра яго. Ён адзначыў, што айцец Кастусь Маскалік быў шчыры і пабожны сьвятар, які меў сапраўднае сьвятарскае пакліканьне і найперш служыў бліжнім сваёй заступніцкай малітвай.

Айцец Канстанцін Маскалік быў пахаваны на могілках сьв. Панкрата ў Лондане, побач з магіламі біскупа Часлава Сіповіча, а. Язэпа Германовіча і іншых беларускіх каталіцкіх сьвятароў. Чын пахаваньня на могілках зьдзейсьніў Апостальскі Візітатар беларусаў-католікаў у замежжы айцец Аляксандар Надсан, які ведаў памерлага яшчэ з перадваеннага часу. Ля магілы а. Кастуся ён сказаў кароткае слова пра свайго земляка. У жалобнай падзеі прыняла ўдзел пераабраная днём раней Прэзідэнт Рады БНР Івонка Сурвіла.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

Анатоль СІДАРЭВІЧ

# РЭЛІГІЯ ЯК ДАДАТАК для “дзяржаўнай ідэалогіі”

***За палітычнымі падзеямі ў Беларусі (налёты, хапуны, падрыхтоўка да прэзідэнцкіх выбараў) і навонках яе (Саюзная дзяржава, Мытны саюз) неяк незаўважна для грамадзтва прайшлі XVI Кірыла-Мятодаўскія чытаньні, прысьвечаныя ўвядзеньню ў школах новага прадмету – рэлігійнай культуры. Між тым “Зьвязда” прысьвяціла гэтай падзеі нямала месца ў нумары за 27 траўня. Карэспандэнтка газеты Вольга Мядзьведзева гутарыла пра новы навучальны прадмет з Рыгорам Даўгялам – першым намесьнікам старшыні Міжнароднага грамадзкага аб'яднаньня “Хрысьціянскі адукацыйны цэнтр імя сьвятых Мятода і Кірылы”, кіраўніком Цэнтра міжнародных сувязяў і разьвіцьця багаслоўскай адукацыі Інстытута тэалогіі БДУ Рыгорам Даўгялам. У наступных нумарах на гэтую тэму пісалі іншыя супрацоўнікі “Зьвязды”.***

***Адразу падзякуем Вользе Мядзьведзевай і яе суразмоўцу за адкрытасьць і лагічныя няўвязкі, якія паказваюць і сам працэс ўвядзеньня новага прадмету, і яго скіраванасьць.***

### ЭКСЬПЕРЫМЕНТ З ПРАДВЫЗНАЧАНЫМ ВЫНІКАМ

Кажучы пра тое, што цяпер прадмет “рэлігійная культура” выкладаецца факультатыўна, Рыгор Даўгяла прапануе паставіць эксперымент: тры гады выкладаць яго “ў некалькіх школах кожнага з абласных цэнтраў і ў некалькіх школах кожнай вобласьці на перыферыі”. На працягу гэтых трох гадоў былі б падрэдагаваныя вучэбныя планы і падручнікі – і прадмет можна было б запускаць ва ўсе школы краіны. Вось так.

Рыгор Даўгяла робіць два адкрыцьці. Аказваецца, грошы на ўвядзеньне новага прадметау ёсьць (а яшчэ нядаўна, скарачалі тэрмін навучаньня школах). І “рэальнай перагружанасьці дзяцей у школе няма” (а яшчэ нядаўна гэтак шмат пра яе гаварылі). Мала таго, Рыгор Даўгяла сьцьвярджае, што бацькі нават скардзяцца “на скарачэньне шэрагу дысцыплін”. Я, як былы настаўнік гісторыі, згодны з гэтымі бацькамі. У выніку рэформаў Замяталіна-Радзькова адбылася прымітывізацыя курсаў усеагульнай і айчыннай гісторыі. Храналагічна большая частка таго, што я выкладаў у савецкай школе ў VIII-X класах, цяпер зьведзена ў адзін тонкі падручнік усеагульнай гісторыі для X класу, і вучні сапраўды “праходзяць” гісторыю “галопом по Европам”. Таму і ня дзіўна, што выпускнікі школ з добрымі адзнакамі ў атэстатах ня ведаюць элементарных фактаў. І вось, ідучы, насустрач пажаданьням бацькоў, Міністэрства адукацыі вырашыла дагрузіць вучняў... не, не гісторыяй, не матэматыкай і фізікай, а прадметам “рэлігійная культура”.

Чаму? Адказ на гэтае пытаньне будзе пазьней.

### ПРА МАНАПОЛІЮ І АЛІГАПОЛІЮ

Рыгор Даўгяла паведамляе чытачам, што пытаньне пра ўвядзеньне новага прадмету ў школах абмяркоўвалася неаднакроць “у рамках пасяджэньняў сумеснага каардынацыйнага савета Міністэрства адукацыі і Беларускай праваслаўнай царквы”. Пра ўдзел у гэтых абмеркаваньнях прадстаўнікоў абодвух абрадаў Каталіцкай Царквы, пратэстанцкіх цэркваў, юдэяў, мусульманаў, крышнаітаў ня сказана ані слова. Вынікам абмеркаваьньняў за зачыненымі дзьвярамі “стала зьяўленьне факультатыўных курсаў з зацьверджанымі планамі”. Гэтыя курсы (“Асновы праваслаўнай культуры”, “Духоўныя асновы культуры” ды “Культура і рэлігія”) уведзены “ў шэрагу школ Менску і Менскай вобласьці”.

Няхай чытача ня ўводзяць у зман словы “духоўныя асновы культуры”, бо з усяе гутаркі вынікае, што манаполіяй на духоўнасьць валодае толькі Царква. Менавіта Царква, а ня Цэрквы.

Праўда, недзе ў сярэдзіне публікацыі, Рыгор Даўгяла спахапіўся і заявіў: “Мы ня кажам пра нейкую манаполію. Размова ідзе пра тое, што ў Беларусі неабходна стварыць сістэму, у якой маглі б рэалізаваць свае адукацыйныя праграмы ўсе гістарычныя рэлігіі і канфесіі”.

Па Канстытуцыі ў нас усе веравызнаньні роўныя, але насамрэч – гэта ня так. Дзяржава і яе партнёр – Беларускі Экзархат Расейскай Праваслаўнай Царквы – ня лічаць носьбітам духоўнасьці гэтак званыя негістарычныя рэлігіі і канфесіі (напрыклад, неапратэстантаў). Невялікая будзе рызыка, калі скажу, што ў лік падазроных дзяржава і Экзархат залічваюць таксама евангельскіх хрысьціянаў баптыстаў і хрысьціянаў веры евангельскай (пяцідзясятнікаў). Тут дарэчы нагадаць, што сказаў першы чыноўнік Рэспублікі, калі даведаўся, што адзін міліцэйскі афіцэр стаў баптыстам, г. зн. адмовіўся піць, курыць, мацюкацца і, эвентуальна, браць хабар.

У лепшым разе на прадмет “рэлігійная культура” ў нашай школе можа быць уведзена праваслаўна-каталіцкая аліагаполія (пры гэтым сумняваюся, што нейкія дывідэнды атрымаюць грэка-каталікі).

### ДУХОЎНАЯ ЦІ ЦАРКОЎНАЯ АДУКАЦЫЯ?

Рыгор Даўгяла некалькі разоў ужывае паняцьце “духоўная адукацыя”. Але ён кажа, што выкладаць новы прадмет павінны людзі, якія “атрымалі, умоўна кажучы, двайны сертыфікат: і дзяржавы, і Царквы, ад імя якой урокі заяўленыя”.

Такім чынам, мы маем падмену паняцьцяў: духоўнае атаясамлена з рэлігійным, а рэлігійнае – з дзяржаўна-царкоўным. Атрымліваецца, што па-за дзяржавай і рэлігійнымі аб'яднаньнямі і незалежна ад іх духоўнасьць немагчымая і духоўныя каштоўнасьці не ствараюцца.

Як быць з Сакратам і Сэнекам? Куды падзець Платона і Арыстоцеля? Што рабіць з багатым пластом арэлігійнага мастацтва, арэлігійнай літаратуры? Ці будзем паліць кнігі Бертрана Расела? Ці выкасуем з праграмаў Льва Талстога і аўтара апавяданьня “Анафема” Аляксандра Купрына?

Рыгор Даўгяла і тыя, хто стаіць за яго сьпіной, мабыць, не разумеюць, да якога абсурду яны дадумаліся. Акрамя таго, прама ці ўскосна яны прызнаюць, што ўрокі літаратуры, гісторыі, выяўленчага мастацтва, музыкі і сьпеваў у сучаснай школе не працуюць на фармаваньне высокадухоўнага, культурнага чалавека, што ў сучасанай школе сапраўды няма духоўнага выхаваньня. Але дзе гарантыя, што выкладчыкі рэлігіі (перапрашаю: рэлігійнай культуры) не спрафануюць у вучнёўскіх вачах і самога Хрыста і ня выклічуць агіду да рэлігіі?

### ЯК ГАРАНТАВАЦЬ ГУМАНІТАРНУЮ БЯСЬПЕКУ

Чаму ж дзяржава і Беларускі Экзархат РПЦ гэтак настойліва хочуць прасунуць у школу новы прадмет? З публікацыі ў “Зьвязьдзе” мы даведваемся, што дзяржаве пагражае гуманітарная небясьпека. Сьвет глабалізуецца, адбываецца дыфузія культур, і беларусам пагражае страта свайго твару.

Што такое твар нацыі? Ці не яе мова і культура? І хто за апошнія шаснаццаць гадоў прыклаў шмат намаганьняў, каб пазбавіць нас нашага твару, зрабіць нас расейцамі са знакам “плюс”? Калі верыць Рыгору Даўгялу, твар нацыі – гэта выключна ці амаль выключна яе традыцыйная рэлігійнасьць. Пры гэтым Рыгор Даўгяла не тлумачыць нам, што такое традыцыйная рэлігійнасьць беларусаў. Мы можам толькі здагадвацца пра зьмест гэтага паняцьця.

Ясна адно: глабалізацыі, інтэрнацыяналізацыі баяцца не Каталіцкая Царква, якая па вызначэньні зьяўляецца сусьветнай, інтэрнацыянальнай, не пратэстанцкія цэрквы, якія маюць моцныя сувязі са сваімі сёстрамі ва ўсім сьвеце.

У Каталіцкай Царкве нельга стаць сьвятаром пасьля кароткатэрміновых курсаў, нельга вучыцца на сьвятара завочна. Многія рыма-каталіцкія і ўсе грэка-каталіцкія сьвятары падрыхтаваныя

# У чаканьні Зыходу Сьвятога Духа: хрысьціянскі фэст у Пінску



***У Пінску, 22 траўня 2010 году, напярэдадні сьвята Зыходу Сьвятога Духа перад будынкам Міждыяцэзіяльнай вышэйшай духоўнай семінарыі імя сьв. Тамаша Аквінскага ўвечары адбыўся хрысьціянскі фэст для моладзі, які праходзіў пад дэвізам “Прыміце Духа Сьвятога”. Гэты фэст моладзі быў арганізаваны намаганьнямі кіраўніцтва пінскай семінарыі і найперш яе пракуратара кс. Эдуарда Мігая разам з берасьцейскімі грэка-каталікамі з супольнасьці “Маран ата”.***

На хрысьціянскі фэст напярэдадні сьвята Пяцідзясятніцы – сьвята заснаваньня Царквы – сабраліся каля трох соцень маладых вернікаў ня толькі з Пінску, але таксама з Берасьця, Баранавічаў, Кобрыня, Лагішына, Новай Мышы, Століна, Янава і іншых гарадоў і мястэчак рэгіёну. Цікавасьць да хрысьціянскага фэсту на тэрыторыі пінскай семінарыі праявілі ня толькі католікі абодвух абрадаў, але і вернікі іншых канфесіяў, а таксама нецаркоўная моладзь.

Музычную праграму фэсту распачаў выступ берасьцейскіх грэка-католікаў з супольнасьці “Маран ата” сумесна з музыкамі з гурта “Paracletos”. Затым былі шэраг танцавальных нумароў і пантаміма пра месца Бога ў жыцьці чалавека. Але, безумоўна, галоўным пунктам праграмы хрысьціянскага фэсту стаў выступ гурта “Подых Духа” з пінскай духоўнай семінарыі, які прэзентаваў свой першы музычны альбом “Я выбіраю Хрыста”. У альбом гурта ўвайшлі песьні, напісаныя як самімі семінарыстамі, так і шэраг папулярных хрысьціянскіх сьпеваў. Ахвотныя маглі набыць дыск гурта, а таксама майкі з сымболікай і назвай гурта. Дарэчы, музычную апаратуру для семінарыйнага гурта падараваў кардынал Казімір Сьвёнтак.

Хрысьціянскі фэст у Пінску доўжыўся чатыры гадзіны да 23-й гадз. і прыцягнуў увагу многіх пінчукоў, якія ў гэты цёплы вечар прагульваліся па набярэжнай Піны. Многія, асабліва моладзь, з цікавасьцю слухалі хрысьціянскія сьпевы, некаторыя адважыліся далучыцца да вясёлых танцаў і малітоўнага праслаўленьня на пляцы перад будынкам духоўнай семінарыі. *(Гл. фотарэпартаж са сьвята на с. 1, 20).*

Берасьцейскія ўдзельнікі сьвята вымушаны былі ад'ехаць, каб сустрэць сьвята Зыходу Сьвятога Духа ў сваёй парафіі. А ў пінскай катэдры апоўначы была адслужана сьвятая Імша, пасьля якой у храме да самай сьвяточнай раніцы Зыходу Сьвятога Духа працягвалася чуваньне моладзі.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

---

за мяжою, а многія дапаўняюць там сваю адукацыю. У Беларусі, бадай, ня знойдзеш такой каталіцкай парафіі, пры якой не працуе нядзельная школка. Вучаць і сьвятары, і манахіні, а ў Баранавічах адмыслова каледж рыхтуе катэхізатараў. Да першай споведзі дзеці атрымліваюць агульнае ўяўленьне пра асновы веры. Абрад канфірмацыі ў рыма-католікаў змушае працягваць рэлігійную адукацыю моладзі і нават сталых людзей. Акрамя таго, адукацыі вернікаў спрыяюць рэкалекцыі.

Што да пратэстантаў, то, бадай, кожны баптыст ці пяцідзясятнік зьяўляецца адначасна місіянерам. Пратэстанцкія цэрквы парупіліся стварыць свае навучальныя ўстановы ў Беларусі і вучаць будучых прапаведнікаў, дыяканаў і прасьвітараў за мяжою.

Ведаю, што добра наладжана рэлігійная адукацыя юных юдэяў.

Уводзячы новы прадмет у школах, дзяржава хоча дапамагчы праваслаўнаму духавенству з РПЦ у справе рэлігійнага навучаньня, бо яно ня вельмі спраўляецца з гэтым сваім абавязкам. Відаць таксама, што рэлігія разглядаецца ўладаю як частка “дзяржаўнай ідэалогіі” і дзяржава хоча ўзяць пад свой татальны ўплыў (і кантроль) рэлігійнае навучаньне. Вось гэта і будзе называцца гуманітарнай бясьпекай.

**У ЧЫМ НЕБЯСЬПЕКА**

Рыгор Даўгяла спрабуе “ўвінціць” нам у галаву, што рэлігійнае навучаньне ў дзяржаўнай школе – нармальная рэч. Ён неяк забывае, што Царква у нас аддзеленая ад дзяржавы, а школа – ад Царквы. Ён дае нам прыклад рэлігійнага выхаваньня ў Нямеччыне, забываючы пры гэтым, што Нямеччына – дэмакратычная краіна. Ён піша, што ў час нейкага ток-шоу 88 адсоткаў гледачоў выказаліся за духоўную адукацыю. За ДУХОЎНУЮ, а не рэлігійную. Колькі людзей у нас выступаюць за рэлігійную адукацыю, паказала б увядзеньне – па прыкладу тае ж Нямеччыны – царкоўнага падатку, калі б праваслаўныя вернікі праз дзяржаву давалі б свае грошы на карысьць Праваслаўнай Царквы, рыма-католікі – на карысьць Рыма-Каталіцкай і г. д. Кажучы, што дзяржава ў Нямеччыне ўтрымлівае багаслоўскія факультэты, Рыгор Даўгяла забывае, што грошы на іх утрыманьне ідуць з гэтага падатку, ад юрыдычных і прыватных асобаў. У нас жа на ўтрыманьне Інстытута тэалогіі пры БДУ, рэктарам якога зьяўляецца праваслаўны мітрапаліт, грошы бяруць і з католікаў, і з пратэстантаў, і з атэістаў (у Нямеччыне неўцаркоўленыя царкоўны падатак ня плацяць).

Быць вернікам ці атэістам – справа кожнага асобнага чалавека. Прыярытэтнае права ў рэлігійным навучаньні і выхаваньні дзяцей павінна перш-наперш належаць сям'і. І гэтае права замацавана ва Ўсеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Хадзіць дзіцяці на ўрокі рэлігійнай культуры ці не, павінны вырашаць бацькі.

У сьвецкай школе, дзе няма ніякіх урокаў рэлігійнай культуры, Каці, Дзімы, Уладзікі і Яні ня дзеляцца на дзяцей рэлігійных бацькоў і дзяцей атэістаў. Калі ж увядуць урокі гэтае самае культуры, дзеці будуць падзеленыя. І тут мы бачым першую небясьпеку. Але мала таго: дзеці юдэяў, мусульманаў, католікаў і пратэстантаў не абавязаныя выслухоўваць “асновы праваслаўнай культуры”. Значыцць, у той час, як дзеці праваслаўных бацькоў будуць слухаць “асновы”, дзеці іншаверцаў будуць басяцца па калідорах? Ці будуць недзе паралельна слухаць “асновы каталіцкай (юдэйскай, ісламскай, баптысцкай, пяцідзясятніцкай, крышнаіцкай) культуры”? Гэтак вынікае другая небясьпека.

Калі цяпер рэлігія зьяўляецца прыватнай справай дзяцей і бацькоў, пасьля ўвядзеньня ў школах гэтае самае “культуры” яна стане публічнай. Дзяцей падзеляць на праваслаўных, католікаў, пратэстантаў, юдэяў, мусульманаў і г. д. І абавязкова зьявяцца пакрыўджаныя на рэлігійнай глебе. Бо хто будзе выкладаць у школе гэтыя самыя “асновы” католікам, пратэстантам, юдэям, мусульманам, калі ў школе, дзе ёсьць вучні-католікі і вучні-пратэстанты, юдэі і мусульмане, няма належным чынам падрыхтаванага настаўніка адпаведнага веравызнаньня?

Рэлігія можа яднаць людзей. Але ў поліканфесійнай краіне яна можа стаць чыньнікам разьяднаньня грамадзянаў. Асабліва тады, калі ў справы сумленьня ўлазіць аўтарытарная дзяржава. Калі яна пачынае фаварызаваць адныя веравызнаньні і рознымі спосабамі абмяжоўваць іншыя.

Парушаючы прынцыпы аддзяленьня Царквы ад дзяржавы, а школы – ад Царквы, беручы пад свой уплыў (кантроль) рэлігійную адукацыю і выхаваньне моладзі, дзяржава ўносіць яшчэ адзін падзел у грамадзянскую супольнасьць. Гэты раскол выгадны цяперашняй уладзе, але гэты раскол на шмат гадоў затрымае фармаваньне беларускай нацыі. Зрэшты фармаваньне беларускай нацыі ў інтарэсы цяперашняй улады не ўваходзіць. Для яе больш важна кантраляваць усіх і ўсё.

Г.Піхура (Гай дэ Пікарда)

# Царкоўная музыка на Беларусі

### 3. Заняпад (1725-1880)

Амаль бесьперапынныя войны з Масквою і рост значэньня Варшавы і Масквы, як культурных цэнтраў, прывялі беларускую царкоўную музыку да заняпаду. У той час, калі праваслаўная інтэлігенцыя цягнула ўсё больш у бок Масквы, каталікі – уніяты і лацiньнікі – былі падвергнутыя працэсу ўсіленай паланізацыі, у выніку якога яны страцілі шмат з свайго арыгінальнага і незалежнага характару. У XVIII ст. уніяцкія царкоўныя хоры, якія раней будзілі подзіў усіх, паступова апынуліся пад кіраўніцтвам “дзякоў”, у большай частцы невукаў і некампэтэнтных. Вось што піша аб тагачасным стане царкоўнай музыкі ў Вялікім Княстве Літоўскім Сьпікула: “Дзякі часам былі вінаватыя ў сумніўных музычных практыках, ужываючы неадпаведны музычны матэрыял і ўводзячы розныя новасьці, нікуды нягодныя як з літургічнага, так і з музычнага пункту гледжаньня. Адной з такіх шырока распаўсюджаных практыкаў было сьпяваць “Самуілку”, або “Ерусалімку”. Гэтыя назовы адносяцца да неагранічанага акампаніяманту напеваў і гімнаў сьв. Літургіі і іншых службаў праз другі, а часам нават і трэці, голас, звычайна у інтэрвалах адной трэцяй, пятай ці актавы. Многія з гэтых мелодыяў былі першапачаткова тэмамі паліфанічнай харавой музыкі, якія распаўсюдзіліся ў народзе і карысталіся там вялікім посьпехам, дзякуючы сваім параўнаўча простым і здаровым гарманічным асновам. З часам паходжаньне і спосаб сьпяваньня гэтых напеваў быў забыты або аднесены памылкова да іншых крыніцаў, а музычная харавая партытура была заменена “Самуілкай”.[1]

Астаткі ўніяцкіх харавых твораў у італьянскім стылю захаваліся ў розных “Багагласьніках” выдаваных у XVIII ст. у Жыровіцах і ў Супрасьлі. Усе яны маглі быць выконваныя або толькі хорам, або пры акампаніямэнце аргану. Некаторыя з гэтых “кантаў”, як напр. “Віжу Ця на крэсьце”, “Крэсным дрэвам расьпятага” і “Маці Міласердзія”, ёсьць рэдкай прыгожасьці і надзвычай урачыстыя.[2] Узрост значэньня паралітургічных “кантаў” быў беспасярэднім вынікам практыкі “ціхай” Літургіі, уведзенай уніятамі. Заснаваныя на народных матывах, яны сталіся быццам спантанічным выражэньнем народнай пабожнасьці. У “кантах” захаваўся нацыянальны элемэнт у часе, калі ён быў амаль зусім выкінены з чыста літургічных песьняў. Як глыбока ўкараніліся ў сэрцы народу напевы з Багагласьнікаў, сьведчыць хоць бы той факт, што сёньня шмат літургічных песьняў сьпяваюцца на мелодыі “кантаў”, асабліва ў часе Вялікага посту і Калядаў.[3]

У гэтым жа стагоддзі многія ўніяцкія цэрквы і манастыры ўвялі арганы, што дало прычыну да саркастычных заўвагаў з боку некаторых праваслаўных палемістаў. У інтэрмедыі (камічнай сцэнцы), напісанай праваслаўньш япіскапам Георгіем Каніскім у 1760 г. расказваецца, як крыху падпіўшы селянін увайшоў у каталіцкі касьцёл і, пачуўшы музыку, пачаў танцаваць: “Аж вось пачалі званіць па нашаму да абедні, а па іхняму до мшы. Вось я і пайшоў да касьцёлу. Аж там як зайграюць, хто ў дудачкі, хто ў сьвісьцёлачкі, а хто ў бубны. Вось я, праўда, ня быўшы ліх, дый пайшоў скакаць”.[4]

У канцы XVIII ст. Базыльяне ў Жыровіцах выдалі зборнік пабожных песьняў на польскай мове пад назовам “Славнэ кантычкі жыровецке”. У гэтым манастыры манах Скальскі ўславіўся сваім добра ведамым гімнам “Жыровіцэ, ласк крыніцэ”, які ня страціў папулярнасьці да сёньняшняга дня.[5] У Белай Падляскай ігумен Цімахвей Шчуроўскі (1740-1810) пісаў кантычкі ў чэсьць сьв. Язафата Кунцэвіча. Найбольш ведамыя з іх ёсьць “Послухайце, цо зробіла” і “Сьвентых цнут збёжэ і цудув вельких явны”, абедзьве з партытурай для аргану.[6] Шчуроўскі ўфундаваў стыпендыю ў вышыні 6000 злотых дзеля ўтрыманьня і ўзгадаваньня чатырох хлапцоў, якія б “сьпевам славілі Бога перад мошчамі сьв. Язафата”.

У Беластоку няведамы базыльянін улажыў мілагучную песьню “Бога верні голдовніцы” (Бога верныя малеце), а манастыр у Лесьнай, які знайходзіўся па суседзку, быў пладавітым асяродкам народнага сьпеву. У 1824 г. паявіўся найбольш ведамы з беларускіх “кантаў”, “О мой Божа, веру Табе”, які магчыма быў напісаны езуіцкім музыкам.[7]

Трэба асабліва падкрэсьліць значэньне езуіцкіх, бернардынскіх, лазарысцкіх і іншых законных лацінскіх місіяў дзеля распаўсюджаньня заходняга ўплыву ў Вялікім Княстве Літоўскім. Галоўнымі заданьнямі місіянера было прапаведваць, выкладаць дзецям Закон Божы і навучаць сьпеву і літургічнай музыкі. Гэтая апошняя дзейнасьць праводзілася амаль выключна ў польскай мове.[8] Некаторыя кантычкі з Вялікага Княства знайшлі месца ў польскіх “канцыяналах”, выдаваных айцамі лазарыстамі Пятром Язэпам Гарштоўскім, Міхалам Рэймскім і перадусім Міхалам Мядушэўскім (1787 – 1868).[9]

Большасьць літургічных кнігаў гэтага часу былі друкаваныя ў Львове і Пачаеве. У выніку гэтага ў цэлай Беларусі пачаў адчувацца ўкраінскі ўплыў. Асабліва моцны быў гэты ўплыў на Падлясьсі і Палесьсі, дзе ён існуе да сёньняшняга дня. Досыць паважнае музычнае жыцьцё існавала яшчэ ў Вільні і Магілеве, але, на жаль, мы маем аб ім вельмі мала дакумэнтаў. Магілеў быў ведамы з сваіх кантаў, зборнікі якіх распаўсюдзіліся па ўсёй Беларусі.[10]

Адзін заходні падарожнік адведаў Магілёў у другой палове XVIII ст. і ягонае апісаньне Службы Божай у мясцовым праваслаўным саборы выклікае ў нас настальгічныя ўспаміны забытай славы: “Я прысутнічаў на рускай Літургіі ў саборы.

---

**Пачатак у № 3 (58), 4 (59) за 2008 г., № 1 (60), 2 (61) за 2009 г.**

---

1. E. Spikula. Byzantine-Slav Liturgical Music – the Period of Choral Development. The Ark. Vol IV. № 1. – Stanford, 1949. P. 11-13.

2. Богогласник. – Варшава 1936. С. 109, 165 і 261. *“Маці міласердзія” ёсьць таксама добра ведамая ў беларускай версіі а. Я. Германовіча “Маці наша добрая”.*

3. *Гэтая практыка ёсьць асабліва распаўсюджаная сярод украінцаў у Галіцыі. Яны сьпяваюць Алілуя перад Евангельлем на мелодыю канта “У Назарэце”, “Да ісполняцца” на тон калядкі “Неба і земля”, а “Херувімскую” на тон “Уже дакрэт падпісуе”.*

4. Хрэстаматыя па Старажытнай беларускай літаратуры. Акад. Навук БССР. – Мінск 1959. С. 382.

5. *“Bazylianie zaczęli utrzymywać szkoły i założyli drukarnię, z której wychodziły znane powszechnie owe kantyczki Żyrowieckie przez wszystkich używane na Litwie. Bazylian Skalski ułożyl sławną oną piesn nabożną, zaczynającą się od wierszy:*

*“Żyrowice łask krynice na świat wylały. Gdy Maryję jak lilije na gruszce ukazały... która, będąc w ustach całego ludu, przypomina mu codzień zupełną historyę zjawienia się w tem miejscu cudownego obrazu i rozszerzenia czci jego po całym kraju”. Cf.* M. Baliński. Starożytna Polska. Vol. III.– Warszawa, 1846. S. 686.

6. *Cf.* Tym Szczurowski. Encyklopedya Kościelna. Tom 37-38. – Kraków, 1903. S. 367; Ks. Michał Dąbrowski. O Świętym męczenniku Josafacie Arcybiskupie Połockim ułożona przez Księdza Tymoteusza Szczurowskiego Z. Sw. B. W., Superiora Klasztoru Bialskego. – Kraków, 1868.

7. E. Karski. Geschichte der Weissrussischen Volksdichtung und Literatur. – Berlin-Leipzig, 1926. Seite 112.

8. *Маскоўскі амбасадар Пятро Талстой, які быў праездам у Менску ў 1698 г., быў вельмі захоплены музыкай арганаў і паліфанічным сьпевам тамтэйшых Бернардынаў і Бенядыктынцаў. Гл.* Т. Ливанова. Очерки и материалы по истории русск. музыкальной культуры. – Москва, 1938. С. 147.

9. Alphonse Schletz, C. M. Activité culturelle des prê-tres de la Mission en Pologne. – Annales de la Congrégation de la Mission. Tome 119-120. – Paris, 1954. P. 113-133.

10. E. Karski, loc. cit.

Яна была простая і ўрачыстая: простая ў сваёй унутранай будове, але бліскучая і пышная ў сваіх вонкавых формах. Там не было ігры скрыпак і нават ніводнага соло сапрана, каб прыцягнуць увагу тысячы вернікаў. Усе, ад вялікага да малога, стаялі ціха і з пашанаю прыслухоўваліся да сьпеваў, малітваў і розных чытаньняў. Два хоры сьпевакоў, якія здаваліся ведаць толькі напевы старых грэцкіх хрысьціянскіх тонаў, сьпявалі ў перамежку: часамі яны сьпявалі разам, а часам толькі адны сапраны, або іншыя галасы – дышканты, тэнары, альты і басы – але ў канцы яны заўсёды зьліваліся ў адзін суцэльны хор. Гарэлі сотні лямпадаў; сьвятары былі адзетыя ў пышныя вопраткі, а народ спакойны і поўны малітаўнага настрою: не было чутно нават шэпту і ніхто не марнаваў часу ў плётках, як гэта часта бывае ў нашых цэрквах... Усе стаялі ціха ў паставе поўнай пашаны перад іхнім Богам".[11]

Да канца гэтага перыяду належыць цікавая фігура Канстанціна Мацясонскага (памёр у 1858 г.), які выехаў з Беларусі ў Вужгарад (Закарпацкая Ўкраіна).[12] Там ён ня толькі зрэфармаваў хор у мясцовым саборы, але ўвёў шмат беларускіх напеваў, якія хутка распаўсюдзіліся сярод мясцовага насельніцтва і былі ім прысвоены.[13]

Канчатковая акупацыя Беларусі Масквою (1795 г.) і зьнішчэньне Уніяцкай Царквы (1839 г.) зачынілі гэты даволі нявыдайны перыяд палянізацыі беларускай царкоўнай музыкі, каб замяніць яго маскоўскім уплывам, больш плодным з музычнага пункту гледжаньня. Кіраўнікі хораў, узгадаваныя на традыцыях царскай і сінадальнай капэлаў Львова (1789-1870) і Бахмецева (1807-1901), спрычыніліся шмат да ўзьняцьця ўзроўню царкоўнага сьпеву на Беларусі. Было напісана шмат гарманізацыяў мясцовых адменаў, бо кожны горад хацеў мець свой собскі "напеў". З гэтага часу паходзяць г. зв. Менскі, Жыровіцкі і Віленскі "напевы".[14] Іхні характар быў тыповым адбіткам салодкасентыментальнага стылю, які быў тады ў модзе і які яшчэ да гэтага часу цешыцца пэўнай папулярнасьцю на Беларусі і ў Маскоўшчыне. Сур'ёзныя кампазітары, якія б былі здольныя прадаўжаць працу ў галіне царкоўнай музыкі ў беларускім нацыянальным духу, амаль не існавалі. Паколькі на Беларусі не было добрых музычных школаў, усе больш здольныя вучні высылаліся ў Маскоўшчыну. Літургічныя творы Міхаіла Глінкі з Смаленску (1804 – 1857), які напісаў прыгожую "Херувімскую", былі паводле свайго духу поўнасьцю маскоўскімі. Мы ня ведаем прозьвішча ніякага іншага кампазітара, які б стварыў у гэтым часе нешта годнае ўвагі ў галіне царкоўнай музыкі.

(Далей будзе)




• *Сьпеў падчас Праскамідыі ў в. Кляшчэлі (прыблізна XVIII ст.).*

*Друкуецца паводле часопісу "Божым шляхам" за 1964 г. (№ 83, сакавік-красавік, с. 8-14; № 84, травень-чэрвень, с. 4-10; № 85, ліпень-жнівень, с. 5-7).*

*Захаваны асаблівасьці лексікі аўтара, выпраўлены памылкі і правапіс асобных словаў ды скаротаў.*

11. Christian Hieronymus Schlegel. Reise in mehrere rus-sische Gouvernements in dem Jahren 178?, 1801, 1807, und 1815. – Tom II. Reise uber Dorpat... durch das Ple-skowsche, Polozkische und Mohilowsche Gouvernement im Jahre 178? – Meiningen, 1823. Seite 128-129.

12. Ф. Стешко. Церковна музика на Підкарпатський Русі. Журнал "Просвіта". – Ужгород. Річнік XII, 1936.

13. *Кантакты паміж Яблачынскім манастыром на Падлясьсі і Закарпацкай Украінай былі асабліва ажыўленымі ў пачатку XX ст., калі шмат праваслаўных місіянераў паехала адтуль каб працаваць паміж закарпацкіх уніятаў. Яны прывезьлі з сабою туды многа беларускіх напеваў. Гл. Яблачьнскую "Херувіімскую" ў "Зборніку" (рыхт. да друку), Лондан.*

14. *Важна разрозьніць паміж "расьпевам" і "напевам". Пад расьпевам мы разумеем поўны цыкль літургічных сьпеваў незалежнага характару (напр., Знаменны, Кіева-літоўскі, Грэцкі і т. д.). Напевы ж зьяўляюцца мясцовымі адменамі мелодыяў, узятых з аднаго з гэтых цыкляў (напр., Жыровіцкі напеў зьяўляецца адменай Кіева-Літоўскага расьпеву). Часамі, як у вьпадку Супрасьлеўскага цыклю, цяжка сказаць, ці яго трэба аднесьці да разраду расьпеваў, ці напеваў. Пасьля павярхоўнага агляду Супрасьлеўскага Ірмалагіёну, думаецца, што яго трэба аднесьці хутчэй да расьпеваў. Некаторыя мясцовыя мелодыі часам таксама называюцца напевамі, але ў большасьці вьпадкаў яны зьяўляюцца творамі невядомых кампазітараў. Сапраўдныя напевы, або адмены расьпеваў, не павінны ніколі быць зьмешванымі з гэтымі псеўда-напевамі.*

# УГКЦ распачынае праект вэбінараў

***29 чэрвеня 2010 году Ўкраінская Грэка-Каталіцкая Царква ладзіць першы вэбінар. Серыю онлайн-семінараў УГКЦ распачне вэбінарам на тэму "Еднасьць паміж праваслаўнымі і грэка-католікамі ў багаслоўскім бачаньні Патрыярха Ёсіфа (Сьліпога)". Яго правядзе дырэктар Інстытуту гісторыі Царквы Ўкраінскага каталіцкага ўніверсітэту айцец д-р Андрэй Міхалейка.***

Як адзначыў Папа Бенядыкт XVI у Пасланьні з нагоды 44-га Дня сродкаў масавай інфармацыі, "у лічбавым сьвеце павінна быць бачна, што поўны любові Божы клопат пра нас у Хрысьце – гэта ня тое, што належыць да мінулага, і нават не навуковая тэорыя, а канкрэтная і актуальная рэчаіснасьць. Душпастырства ў лічбавым сьвеце павінна сапраўды паказаць людзям нашага часу і страчанаму сучаснаму чалавецтву, што "Бог ёсьць блізка, што ў Хрысьце мы ўсе належым адзін аднаму".

Мэтай гэтага распачатага праекту вэбінараў зьяўляецца прапаведаваньне Евангельля з дапамогай найноўшых тэхналогіяў. Першым вэбінарам УГКЦ адкрые цыкл онлайн-семінараў, прысьвечаных гісторыі Царквы. Таксама рыхтуецца серыя вэбінараў на тэмы маральнага багаслоўя. Усе вэбінары будуць зархіваваныя, а затым – апублікаваныя на сайце і даступныя для прагляду ў любы час.

Першы вэбінар на тэму еднасьці працягнецца каля гадзіны. Зацікаўленыя павінны даслаць з уласнай паштовай скрынкі на адрас: *webinar@ugcc.org.ua* ліст з загалоўкам: *Рэгістрацыя на Webinar*. У целе ліста трэба падаць сваё імя і прозьвішча. Перад пачаткам вэбінару удзельнік атрымае на свой электронны адрас спасылку для падключэньня.

Наступны вэбінар УГКЦ адбудзецца ў ліпені гэтага году і будзе прысьвечаны Львоўскаму псеўдасабору 1946 году.

*ДАВЕДКА: Вэбінар – гэта онлайн мерапрыемства, на якім адзін або некалькі сьпікераў могуць праводзіць праз Інтэрнэт або карпаратыўную сетку семінары, сустрэчы, нарады для групы ад некалькіх чалавек да некалькіх тысячаў удзельнікаў. Вэбінары могуць утрымліваць сеансы галасаваньняў і апытаньняў, што забясьпечвае поўнае ўзаемадзеяньне паміж аўдыторыяй і вядоўцам. Падчас вэбінару адпаведнае праграмнае забесьпячэньне дазваляе бачыць, чуць сьпікера і ў тэкставым варыянце задаваць яму свае пытаньні.*

*Паводле Дэпартаменту інфармацыі УГКЦ*



***Хрысьціянскі фэст у Пінску напярэдадні сьвята Зыходу Сьвятога Духа, 22.05.2010.*** *Фота Міхаіла Волкава і Юліі Галянюк.*

*Заснаваная ў 1995 г.*
**Царква**
*грэка-каталіцкая газета*
***№ 2 (65), 2010***
**30 чэрвеня**

**Адрас рэдакцыі:**
вул. Дворнікава, 63
224014, Берасьце (Брэст)
Беларусь
Тэл./факс (0162) 24-74-82
e-mail: bgkc_carkva@tut.by
***сайт: carkva-gazeta.org***

**Заснавальнік і выдавец:** грэка-каталіцкая парафія сьвятых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя ў г. Берасьці
**Галоўны рэдактар:** а. Ігар КАНДРАЦЬЕЎ
**Царкоўны асістэнт:** а. Андрэй АБЛАМЕЙКА, STM
**Адказны рэдактар:** а. Андрэй КРОТ, STL
**Выпускны рэдактар:** Ігар БАРАНОЎСКІ
**Падпісана ў друк:** 30 чэрвеня 2010 году, 10-45.
**Паліграфічныя работы:** ПП В.Ю.А. (пасьв. № 02330/0131540 ад 30.04.04), вул. Мініна, 23-106, 220014, Менск. **Замова** № 179
**Аб'ём** 2,5 друк. арк. **Наклад** 299 асобнікаў.

***НАШ РАХУНАК:***
*№ 3015220710013*
*у ЦБУ ЗАТ "Абсалют-банк" у г.Берасьці*
*МФО 153001898,*
*УНП 200558013*